Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

**В.М.ЛАМАКА, Ж.С.СІПЛІВЕНЯ,
П.У.СЦЯЦКО, Т.А.ЯКУБОВІЧ**

# АНАМАСТЫЧНЫ СЛОЎНІК ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

У 2 частках

Частка I. **МІКРАТАПОНІМЫ**

Гродна 2005

УДК 808.26–087(038)
ББК 81.411.3–4
Л21

Рэцэнзенты: доктар філалагічных навук *В.А.Ляшчынская*;
кандыдат філалагічных навук *С.Г.Ляскевіч*.

Навуковы рэдактар: доктар філалагічных навук, прафесар *П.У.Сцяцко*

Рэкамендавана саветам філалагічнага факультэта ГрДУ імя Я.Купалы

**Ламака, В.М.**

Анамастычны слоўнік Гродзеншчыны. У 2 ч. Ч. 1.
Л21 Мікратапонімы / В.М.Ламака [і інш.]; пад рэд. П.У.Сцяцко. – Гродна : ГрДУ, 2005. – 347 с.

ISBN 985-417-765-3

У слоўніку падаецца анамастычная лексіка (мікратапонімы), сабраныя за апошнія дзесяцігоддзі XX стагоддзя ў раёнах Гродзенскай вобласці. Матэрыялы слоўніка могуць быць выкарыстаныя пры стварэнні агульнабеларускага анамастыкону, а таксама пры супастаўляльным вывучэнні славянскай тапаніміі.

Прызначаецца лінгвістам, выкладчыкам і студэнтам філалагічных спецыяльнасцяў ВНУ Беларусі.

**УДК 808.26–087(038)**
**ББК 81.411.3–4**

**ISBN 985-417-765-3**

## *СПІС ПРЫНЯТЫХ СКАРАЧЭННЯЎ*

Астр. – Астравецкі
Ашм. – Ашмянскі
Бераст. – Бераставіцкі
в. – вёска
Ваўк. – Ваўкавыскі
Воран. – Воранаўскі
г. – горад
Гродз. – Гродзенскі
Дзятл. – Дзятлаўскі
ж. – жаночы род
Зэльв. – Зэльвенскі
Іўеў. – Іўеўскі
Карэл. – Карэліцкі
Лід.— Лідскі
м. – мужчынскі род
Маст. – Мастоўскі
мн. – множны лік
н. – ніякі род
Навагр. – Навагрудскі
п. – пасёлак
р. – рака
Свісл. – Свіслацкі
Слонім. – Слонімскі
Смарг. – Смаргонскі
Шчуч. – Шчучынскі

# ПРАДМОВА

Даследаванне анамастычнай лексікі – невычэрпнага скарбу беларускай народнай мовы – актуальная задача сучаснай беларускай лінгвістыкі. Пра гэта сведчаць навукова-даследчыя працы па анамастычнай лексіцы розных рэгіёнаў Беларусі: «Анамастычны слоўнік Магілёўшчыны» Рагаўцова В.І., Кечык С.Я., выдадзены ў 2000 г., кандыдацкая дысертацыя Г.К.Семяньковай «Прозвішчы жыхароў Віцебшчыны: структура, семантыка, геаграфія», абароненая на пачатку 2002 года ў БДПУ імя Максіма Танка, ды інш.

Анамастыка Гродзеншчыны ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі Беларусі вывучаная ў нязначнай ступені. Няма пакуль што грунтоўных лексікаграфічных крыніцаў па антрапаніміцы, тапаніміцы, мікратапаніміцы, за выключэннем «Слоўніка назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці» Я.Н.Рапановіча, мікратапонімаў басейна ракі Свіслач у кнізе А.П.Цыхуна «Скарбы народнай мовы», мікратапонімаў асобных раёнаў Гродзеншчыны, якія ўключаны ў слоўнік «Мікратапанімія Беларусі» (пад рэдакцыяй М.В.Бірылы і Ю.Ф.Мацкевіч).

Анамастычная лексіка – вельмі карысны матэрыял для даследаванняў у розных галінах навукі: у лінгвістыцы, гісторыі, этнаграфіі, геаграфіі. У намінацыях геаграфічных аб'ектаў адлюстроўваюцца і перадаюцца ад пакалення да пакалення шматлікія рэаліі і паняцці з жыцця, побыту, працоўнай дзейнасці чалавека. Пераважная большасць тапонімаў паходзіць ад апелятыўнай лексікі, якая адлюстроўвае асаблівасці прыродна-геаграфічных аб'ектаў Гродзеншчыны, яе ландшафт, флору і фаўну. Значная колькасць адапелятыўных тапонімаў паказвае на характар вытворчай, гаспадарчай дзейнасці ды іншыя фактары сацыяльнага і культурнага жыцця насельнікаў Прынёманскага краю. Неаднаслоўныя мясцовыя назвы, утвораныя ад уласных імёнаў, мянушак і прозвішчаў, нясуць у сабе каштоўныя звесткі пра даўнейшы і сучасны стан іменаслову гарадзенцаў. На матэрыяле мясцовых геаграфічных назваў можна прасачыць цэлы шэраг моўных, сацыяльна-культурных фактаў, абумоўленых гістарычным суседствам тэрыторыі Гродзеншчыны з Польшчай і Літвой.

«Анамастычны слоўнік Гродзеншчыны», падрыхтаваны супрацоўнікамі навукова-даследчай лабараторыі «Вывучэнне народнай мовы Гродзеншчыны» пры ГрДУ імя Янкі Купалы, часткова ліквідуе недахоп матэрыялу па згаданай праблеме. Першая яго частка «Мікратапонімы» змяшчае каля 10,5 тысячы мікратапонімаў – назваў дробных геаграфічных аб'ектаў (лясоў, палёў, лугоў, сенажацяў, пашаў, невялікіх вадаёмаў і г.д.), сабраных навукоўцамі НДЛ і студэнтамі аддзялення беларускай і славянскай філалогіі ГрДУ імя Янкі

Купалы (пераважна падчас дыялекталагічнай практыкі, а таксама пры падрыхтоўцы да напісання курсавых і дыпломных працаў).

У слоўніку мікратапонімы падаюцца ў алфавітным парадку з выкарыстаннем спрошчанай транскрыпцыі, з захаваннем фанетычных і акцэнтавых асаблівасцяў мясцовага вымаўлення. Пасля загалоўкавага слова паказваюцца граматычныя паметы: род для назоўнікаў адзіночнага ліку і памета «мн.», калі назва мае форму множнага ліку (да неаднаслоўных назваў кшталту ПАД АЗЯРКОМ – паметы не падаюцца). Далей паказваецца прыродна-геаграфічны аб'ект, абазначаны мікратапонімам (урочышча, поле, сенажаць, лес, ручай і інш.). Кожны мікратапонім мае свой пашпарт: назва вёскі і раён, дзе зафіксаваная намінацыя (паводле адміністрацыйнага падзелу, пададзенага ў «Слоўніку назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці»). Варыянты назваў таго самага аб'екта падаюцца ў дужках адразу пасля загалоўкавага слова.

Гэты слоўнік дапаўняе папярэднія публікацыі па мікратапаніміцы Гродзенскай вобласці (Ю.Ф.Мацкевіч, Я.М.Рамановіч, Л.Ф.Шаталавай, Г.У.Арашонкавай, А.К.Усціновіч, Т.Ф.Сцяшковіч, Я.І.Грынавецкене, А.П.Цыхуна і інш.), а таксама часткова ўдакладняе матэрыялы, змешчаныя ў «Слоўніку назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці» Я.Н.Рапановіча.

Аўтарскі калектыў працуе над другой часткай «Анамастычнага слоўніка Гродзеншчыны» – «Антрапанімія», якая будзе змяшчаць прозвішчы насельнікаў Гродзеншчыны (спробны фрагмент да гэтай часткі апублікаваны ў «Слоўніку рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны» пад рэдакцыяй М.А.Даніловіча, П.У.Сцяцко (Гродна, 1999)).

Матэрыял слоўніка будзе выкарыстоўвацца ў навучальным курсе «Беларуская дыялекталогія», а таксама пры напісанні студэнтамі курсавых і дыпломных працаў, навукоўцамі пры падрыхтоўцы навуковых артыкулаў і дысертацый. Спатрэбіцца ён таксама работнікам мясцовай улады, міліцыі, памежнікам, усім, хто ў штодзённай працы мае дачыненне да назваў мясцовых геаграфічных аб'ектаў. Антрапанімічная частка слоўніка пры яе апублікаванні паслужыць справе ўпарадкавання правапісу прозвішчаў, бо не сакрэт, што работнікі аддзелаў пашпартна-візавай службы, загсаў, аддзелаў кадраў маюць шмат праблемаў, звязаных з захаваннем аднастайнасці ў напісанні прозвішчаў і імёнаў, а таксама пры перадачы іх сродкамі іншай мовы.

Мікратапанімічны матэрыял да слоўніка падрыхтавалі: В.М.Ламака (літары А – І, Т, У, Ф, Ц), Ж.С.Сіплівеня (літара Н), П.У.Сцяцко (літары П, Р, С, Ш, Э, Ю, Я), Т.А.Якубовіч (К, Л, М, Х, Ч). Аўтарскі калектыў выказвае шчырую падзяку ўсім, хто дапамог у выданні слоўніка.

# *МІКРАТАПОНІМЫ*

## А

АБАДЗІ´ШЧА н. *Лес.* Равы Ашм.; *Рэчка.* Бяйнюны, Баргалішкі Ашм.; *Поле.* Біцяняты Смарг.
АБВОДАК м. *Ручай (агінае, абвівае балота).* Дашкавічы Свісл.
АБЕ´ДАЎШЧЫНА ж. *Поле.* Сугакі Ваўк.
АБІ´РКАВА н. *Поле (належала селяніну Абірку).* Корнадзь Свісл.
АБІ´РКАЎ АГАРОД. *Агарод (належыць Абірку).* Куклічы Свісл.
АБІ´РКАЎ ГРУД. *Пагорак (побач жыў Абірка).* Корнадзь Свісл.
АБІСІНА´ ж. *Частка поля.* Агульс Шчуч.
АБКОПАВА МАГІЛА. *Магіла.* Заборцы, Цацкі Лід.
АБЛОГ м. *Пагорак.* Пладовая Маст.
АБЛОГА ж. *Сенажаць.* Петрашоўцы Ваўк.
АБЛОГІ мн. *Імшарына і сенажаць (займаюць вялікую плошчу).* Раманавічы Шчуч.
АБЛЯМОВА ПРАСЕКА. *Частка лесу.* Чаплічы Лід.
АБМЕ´ЖАК м. *Выган (паміж палёў).* Сінкіняты Іўеў., Казлоўшчына Ашм.
АБОРАК м. *Поле (за рэчкай Борка).* Петрашоўцы Ваўк.; *Частка сенажаці.* Ханявічы Свісл.; *Поле (за борам).* Духаўляны Ваўк.
АБОРКІ мн. *Сенажаць.* Ракавічы Шчуч.
АБРАЖОЎКА ж. *Поле.* Казіміраўка Гродз.
АБРА´МАВА БАЛОТА. *Сенажаць (належала Абраму).* Слаўчыненты Смарг.
АБРА´МАВА ПАСЕКА. *Урочышча (былая пасека Абрама).* Чаплічы Лід.
АБРА´МАЎШЧЫНА ж. *Частка сенажаці (належала Абраму ці Абрамаву).* Гнаінскія Дзятл.
АБРАМЕ´ЛЕВЫ ПРЫСАДЫ. *Сад (належыць Абрамелю).* Мілашэвічы Слонім.
АБРАМОЎШЧЫЗНА ж. *Сенажаць (належала Абрамаву).* Павіланцы Воран.
АБРОВЕДЗЬ ж. *Балота.* Дашкавічы Свісл.
АБРОЧНО н. *Балота.* Парэчча Гродз.
АБРУ´Б м. *Поле.* Казіміраўка Гродз.; *Паша.* Мікулішкі Шчуч.; *Лес.* Буцілы, Баяры Лід.

АБРУ´БЫ мн. *Поле.* Вішнеўка Бераст., Эйсманты Гродз.
АБРЫ´Ў м. *Поле (побач невялікі яр, абрыў).* Пладовая Маст.; *Пагорак.* Лозкі Шчуч.
АБРЭМШЧЫНА ж. *Урочышча (былое памесце Абрэмскіх).* Каленікі Гродз.
АБСОГ м. *Поле.* Стукалы Маст.
АБСОХ м. *Сенажаць (мокрае месца).* Раманавічы Шчуч.
АБУХОЎСКАЕ БАЛОТА. *Сенажаць (належала Абуховічу).* Новы Двор Свісл., Дубінка Гродз.
АБУХОЎСКІ ЛЕС. *Лес (належаў Абухоўскаму).* Верцялішкі Гродз.
АБУХОЎСКІ ХУТАР. *Урочышча (былы хутар Абухоўскага).* Воўпа Ваўк.
АБУХОЎШЧЫНА ж. *Лес (належаў Абуховічу).* Кухары Шчуч.
АБЫТОКА ж. *Затока (на р.Нёман).* Дзяляцічы Навагр.
АБЫХОДНІК м. *Балота (непраходнае, яго абыходзілі).* Крапіўніца Свісл.
АБЭРЖА ж. *Урочышча (былы маёнтак).* Пладовая Маст.
АВАДНІ´ЦКА БЕРАЗІНА. *Урочышча.* Шыйкі Зэльв.
АВЕ´РКАВА ПАЛЯНА. *Паляна (належала Аверку).* Лозкі Шчуч.
АВЕ´РКАЎ РОГ. *Частка поля (былая сядзіба Аверкі).* Аўсяніца Шчуч.
АВЕ´РКАЎШЧЫНА ж. *Поле (апрацоўваў Аверка).* Навіны Навагр.
АВЕ´ЧКІНА ПАША. *Паша.* Гервяты Астр.
АВЕ´ЧЧЫН РОЎ. *Роў (праз яго пераганялі на пашу авечак).* Порайсць Воран.
АВЕ´ЧЫЦКА ГРАНІЦА. *Мяжа.* Клепачы Зэльв.
АГАНЁЎШЧЫНА ж. *Поле (былое балота, якое часта гарэла).* Савані, Каліноўская Свісл.
АГАНЬКІ´ мн. *Частка балота (тут уначы відаць светлячкі).* Мілашэвічы, Навасёлкі Слонім.
АГАРАДЫ´ мн. *Поле.* Рудня Свісл.
АГА´РАК м. *Дуб (абгарэлы).* Навасёлкі, Мілашэвічы Слонім.
АГАРОДНЁ н. *Поле (былыя агароды вяскоўцаў).* Лапухова Слонім.
АГАРОДНІК м. *Поле (на месцы былых агародаў).* Парэчча Гродз.
АГАРОДНІЦКАЕ БАЛОТА. *Сенажаць (каля в.Агароднікі).* Гродз.
АГАРОДНІЦКАЯ ДАРОГА. *Дарога (да в.Агароднікі).* Ханчыцы Свісл., Талькаўцы Ваўк.
АГАРОДНЫ ЛУГ. *Луг (каля агародаў).* Задвор'е Слонім.
АГАРОДЫ мн. *Выган (за агародамі).* Гербелевічы Дзятл.; *Поле.* Майсеевічы Ваўк., Енчы Воран.; *Сенажаць.* Сямкова Навагр.
АГАРОЧЧА н. *Частка бору.* Дубароўшчына Дзятл.

АГАТОЎСКА ГРАНІЦА. *Мяжа.* Бязводна Зэльв.
АГА´ЦІН ЛУГ. *Луг (належаў Агаце).* Дзевяткаўцы Ваўк.
АГА´ШКА ж. *Дарога.* Гнесічы Навагр.
АГЗЭБІХІ САД. *Сад (належаў жанчыне па мянушцы «Агзэбіха»).* Пяцкуны Іўеў.
АГІ´НСКАГА ЛЕС. *Лес (належаў Агінскаму).* Забалацце Смарг.
АГІ´НШЧЫНА ж. *Урочышча (былое поле Агінскага).* Путрышкі Гродз.
АГІ´РАВАЕ БАЛОТА. *Балота (тут шмат аеру).* Волькаўшчына Смарг.
АГЛЕ´ЙБЫ мн. *Лес.* Янканцы Ашм.
АГЛІНА´ ж. *Лес (належаў пану Аглінскаму).* Канвелішкі Воран.
АГНЮ´ЦІН ЛОГ. *Урочышча.* Кладнікі Іўеў.
АГНЯВОЕ ДВОРЫШЧА. *Урочышча (тут згарэлі хаты).* Чаплічы Лід.
АГРЭЙСАЎ УЧАСТАК. *Зямельны надзел (належаў Агрэйсу).* Круні Смарг.
АГРЭХІ мн. *Лес (ранейшыя палоскі ворнай зямлі – агрэхі).* Свайгіні Смарг.
АГУ´ЛЕЦ м. *Дарога (падзяляе палі на ўчасткі).* Тапалёва Гродз.
АГУ´ЛЫ мн. *Лес (каля в.Агульс).* Шчуч.
АГУЛЬЦОВАЯ ДАРОГА. *Дарога (да станцыі Аульс).* Гродз.
АГУСТОЎШЧЫНА ж. *Поле.* Холстава Зэльв.
АД ВЫ´ГАНА. *Сенажаць (каля выгану).* Падбалоцце Зэльв.
АДАЛЕ´ЎСКАГА КРУШНЯ. *Крушня (былое поле селяніна Адалеўскага).* Якубаўцы Воран.
АДА´ЛЬКАЎШЧЫНА ж. *Урочышча (былы маёнтак Адалькі).* Круглікі Гродз.
АДА´МАВА БАЛОТА. *Сенажаць (належала Адаму).* Волькаўшчына Смарг.
АДА´МАВА ГАРА. *Пагорак (каля хаты Адама).* Косічы Навагр.
АДА´МАВА ГРАНІЦА. *Мяжа (праходзіць за палеткам Адама).* Багатырэвічы Маст.
АДА´МАВА КЛАДКА. *Кладка (яе зрабіў пастух Адам).* Чаплічы Лід.
АДА´МАВА МЕЛЬНІЦА. *Млын (яго збудаваў Адам).* Руда Яварская Дзятл.
АДА´МАЎ ЛУГ. *Луг (на былым хутары Адама).* Хадзявічы Слонім.
АДА´МАЎШЧЫНА (АДА´МАЎШЧЫЗНА) ж. *Частка вёскі Граўжышкі.* Ашм.
АДА´МІСІНО ПОЛЕ. *Поле.* Кукалкі Ваўк.
АДАМІ´ЦКАГА ПАЛЯНА. *Паляна (тут загінуў чырвонаармеец Адаміцкі).* Кемейшы Воран.

АДА´МКАЎ ЛОГ. *Поле.* Малькавічы Маст.
АДА´МКАЎ ЛУЖОК. *Луг (належаў Адамку).* Фалькавічы Лід.
АДАМКЕ´ВІЧА САЖАЛКА. *Сажалка (тут тапіўся Адамкевіч).* Свіслач Гродз.
АДАМКЕ´ВІЧАЎ АГАРОД. *Агарод (каля хаты Адамкевіча).* Тапалёва Гродз.
АДАМКОВА ПАША. *Частка сенажаці (належала Адамку).* Лаўна Маст.
АДАМКО´ВО ПОЛЕ. *Поле (належала пану Адаму).* Каліноўская, Ханявічы Свісл.
АДАМОВІЧЫСІНА ДАЛІНА. *Надзел зямлі (належаў Адамовічысе, жонцы Адамовіча).* Шундры Слонім.
АДАМОЙЧАВА СТУДНЯ. *Студня (каля хаты Адамовіча).* Лойці Ашм.
АДАМУ´ЛЬКАВА ГАРА. *Пагорак (былы хутар Адамулькі).* Нарбутавічы Дзятл.
АДАМЦОЎ САД. *Стары сад (належаў Адамцу).* Малдуці Дзятл.
АДА´МЧЫКАВА ГАРА. *Пагорак (былы хутар Адамчыка).* Шылавічы Ваўк.
АДА´МЧЫКАВА ДАРОГА. *Дарога (вяла да хаты Адамчыка).* Кукалкі Ваўк.
АДА´МЧЫКАВА ПАША. *Паша (ранейшы надзел Адамчыка).* Кукалкі Ваўк.
АДА´РЧЫН РУЧЭЙ. *Ручай.* Шчапанавічы Ашм.
АДАСЁВА СЯДЗІБА. *Урочышча (былы хутар Адася).* Лаўна Маст.
АДА´СЕНЬКІ ЛЕС. *Лес (былая сядзіба Адася).* Гальшаны Ашм.
АДА´СЕЎ АГАРОД. *Агарод (належаў Адасю).* Кукалкі Ваўк.
АДА´СІНЬКІ БЯРЭЗНІК. *Бярэзнік (былы хутар Адасінькі).* Гальшаны Ашм.
АДАШКЕ´ВІЧА ХУТАР. *Поле.* Кальчуны Ашм.
АДВА´РАГА. *Вадапой.* Якубаўцы Воран.
АДВЕ´РНІЦКАЯ СЕНАЖАЦЬ. *Сенажаць (каля в.Адверніකі).* Воран.
АДДАЛЁНАЕ н. *Поле (воддаль ад вёскі).* Карэвічы Іўеў.
АДДЗЕ´ЛАК м. *Частка поля.* Каліноўская, Ханявічы Свісл.; *Частка лесу.* Бабічы Шчуч.
АДКРЫ´ТЫ ВІР. *Месца на рацэ.* Лозкі Шчуч.
АДЛОГ м. *Лес (у нізіне).* Тэлькаўшчына Іўеў.
АДЛОГА ж. *Поле (у нізіне).* Юрэлі Воран.
АДЛОГІ мн. *Лес (у нізіне).* Эймінаўцы Бераст.
АДЛЯ´НСКАЕ БАЛОТА. *Сенажаць (каля в.Адэльск).* Гродз.
АДМЕ´Н м. *Урочышча (былы хутар).* Шундры Слонім.

АДНАРА´ТА ж. *Лес (каля хутара Ганарата).* Маст.
АДНАРУ´ЧКАЎ АГАРОД. *Агарод (каля хаты Аднаручкі).* Сухінічы Маст.
АДНОГА ж. *Мяжа (шырынёй у адну нагу – ступню).* Шундры Слонім.
АДОЛЕЎ СКЛЕП. *Склеп (на былой сядзібе Адоля).* Змяёўцы Дзятл.
АДОЛЬКАВА ГРУШКА. *Груша.* Еўлашы Шчуч.
АДОЛЬФАВЫ МЕЖЫ. *Урочышча.* Навасёлкі Ашм.
АДРА´НКА ж. *Поле.* Парэчча Гродз.
АДРОДЗЕВА ГАРА. *Пагорак (тут жыў Адродзь).* Падваранцы Іўеў.
АДРЫВОНСКІЯ ПАЛІ. *Поле (належала пану Адрывону).* Трускавічы Ашм.
АДРЫ´НА ж. *Поле.* Енчы Воран., Багданаўцы Шчуч.; *Хата (вялікіх памераў).* Навасёлкі Слонім.
АДРЫ´НІШНІК м. *Поле.* Бакшты Шчуч.
АДРЫ´НІШЧА н. *Поле.* Мікалаеўшчына Слонім.; *Луг.* Мілявічы Маст.
АДРЫ´НІШЧЫ мн. *Поле.* Заполле Навагр.
АДСТОЙНІКІ мн. *Луг (побач – адстойнікі з крухмальнага завода).* Рагозніца Маст.
АДЫ´НЦАВА н. *Сенажаць (належала пану Адынцу).* Сінкіняты Іўеў. АДЫ´НЦАЎ ЛЕС. *Лес (належаў пану Адынцу).* Жэльвы, Навасёлкі Ашм.
АДЭЛІН АГАРОД. *Агарод (належаў Адэлі).* Баранавічы Іўеў.
АДЭЛІНА РЭЧКА. *Частка ракі (побач з Адэлінай сенажаццю).* Нястанішкі Смарг.
АДЭЛЬСКА-СКРАБЛЯ´ЦКА ДАРОГА. *Дарога (паміж вёскамі Адэльск і Скрабляк).* Скраблякі Гродз.
АДЭЛЬСКІ ЛУГ. *Луг (каля в.Адэльск).* Гродз.
АДЭЛЬЧЫН КАЛОДЗЕЖ. *Калодзеж (каля хаты Адэлькі).* Зарачаны Воран.
АДЭЛЬЧЫН ЛУЖОК. *Невялікі луг (каля хаты Адэлькі).* Вайкалы Шчуч.
АДЭЛЬЧЫНА НІВА. *Частка поля (побач з хатай Адэлькі).* Вайкалы Шчуч.
АДЭЛЬЧЫНЫЯ АКОПЫ. *Ямы (насупраць хаты Адэлькі).* Зарачаны Воран.
АЕГІ´РАВАЕ БАЛОТА. *Балота (расце шмат аеру).* Нараты Смарг.
АЕ´ЛЬЧЫКАВА ПОЛЕ. *Поле (належала Аельчыку).* Хралы Астр.
АЕ´Р м. *Балота (расце шмат аеру).* Рудзішкі Астр.

АЖАКІ´ мн. *Поле.* Парэчча Гродз.
АЖАКОЎ ДОЛ. *Урочышча.* Парэчча Гродз.
АЖАРЭЙКІ мн. *Лес.* Пагароднa Воран.
АЖУ´ГЕРЫ мн. *Лес.* Жэльвы Ашм.
АЖУ´КАЛЬНІ мн. *Мясціна ў лесе.* Вялікія Екентаны Астр.
АЖУ´ШАЛЕ н. *Поле.* Гіры Астр.
АЖЫ´НАВА ДАЛІНА. *Балота (расце шмат ажынніку).* Ятра, Косічы Навагр.
АЖЫ´ННІК м. *Паляна ў лесе (расце шмат ажынаў).* Аўсяніца Шчуч.; *Лес.* Казіміраўка Гродз.; *Кустоўе.* Раганічы Шчуч.
АЖЫ´НСКІ РОЎ. *Урочышча.* Мігова Гродз.
АЖЫ´ШКІ мн. *Луг.* Духаўляны Ваўк.
АЖЭЎНІКІ мн. *Лес (тут шмат ажэўніку).* Гейстуны Ашм.
АЗАРА´НА ж. *Крыніца.* Сугакі Ваўк.
АЗАРА´НСКІ ЛЕС. *Лес.* Талькаўцы Ваўк.
АЗА´РАЎСКІ НАЦІСК. *Вадаспад (каля былога хутара Азарава).* Заполле Навагр.
АЗА´РАЎШЧЫНА ж. *Урочышча (былая сядзіба Азарава).* Заполле Навагр.
АЗАРЦЫ´ мн. *Урочышча (возера з прылеглым да яго балотам і часткай лесу).* Гербелевічы Гродз.
АЗА´РЫЦКАЯ ДАРОГА. *Дарога (да в.Азарычы).* Слонім.
АЗА´РЫЦКАЯ МАГІЛА. *Магіла (тут пахаваныя жыхары в.Азарычы, расстраляныя немцамі ў час вайны).* Азарычы Слонім.
АЗА´РЫЦКАЯ РЭЧКА ж. *Рэчка (каля в.Азарычы).* Слонім.
АЗЁРКІ мн. *Луг.* Нагорнікі Дзятл.
АЗЕ´РСКАГА ПАЛЯНА. *Паляна (ранейшы надзел Азерскага).* Сухінічы Маст.
АЗЁРСКАЯ ШАША. *Дарога (да вёскі Азёры).* Казіміраўка Гродз.
АЗЁРСКІ ЛУГ. *Луг (за возерам).* Сугакі Ваўк.
АЗНІ´ШКІ мн. *Сенажаць.* Гіравічы Іўеў.
АЗОРНАЯ ж. *Дарога (злучае вёскі Ваверка, Сямейкі і Серафіны).* Ваверка Лід.
АЗЯРА´НСКАЕ ВОЗЕРА. *Возера (каля в.Малыя Азёркі).* Маст.
АЗЯРКІ´ мн. *Балота (тут ёсць ямы з вадою).* Якубаўцы Воран.
АЗЯРКО н. *Балота (у цэнтры яго – невялікае возера).* Ліпнікі Шчуч.; *Луг (раней было возера).* Павіланцы Воран.
АЗЯРНІ´ЦА ж. *Рэчка.* Дзевятні Смарг.
АЗЯРНОЕ н. *Поле (на месцы возера).* Навіны Навагр.
АЗЯРЦЫ´ мн. *Поле.* Варона Астр.
АЗЯРЫ´НА ж. *Невялікае возера.* Чарлёнка Дзятл..

АЗЯРЫ´СКА н. *Поле (раней было возера).* Ятра Навагр.; *Яма (зарослая асакой, ранейшае возера).* Сугакі Ваўк.
АЗЯРЫ´ШЧА н. *Луг.* Загор'е Навагр.; *Поле (у нізіне).* Сугакі Ваўк., Ханявічы Свісл; *Балота (раней было возера).* Ведравічы, Дубароўшчына Дзятл.; *Сенажаць.* Маркуці Лід.; *Выган (у нізіне).* Казлоўшчына Ашм.; *Поле (тут было невялікае возера).* Багатырэвічы Маст.; *Невялікае азярцо.* Бязводна Зэльв.; *Лес.* Церахавічы Свісл.
АЗЯРЫ´ШЧЫ мн. *Балота (вакол возера).* Косічы Навагр.
АЗЯРЭЦ м. *Сенажаць (на месцы былога возера).* Змяёўцы Дзятл., Хацілавічы Смарг.
АЙЦОВА ВОЛЯ. *Урочышча.* Кастэчына Ашм.
АКАЛОДАЧНО н. *Поле.* Багудзенка Навагр.; *Балота (раней непадалёку жыў акалодачны).* Ятра Навагр.
АКІНЧА´К м. *Сад.* Варона Астр.
АКМЯ´НА ж. *Лес.* Бяйнюны Ашм.
АКМЯНІ´НЯ ж. *Пагорак.* Гіры Астр.
АКНЕ´НЕВА ЛУЖЫНА. *Лужына.* Заборцы Лід.
АКНО н. *Поле (мае форму акна).* Свайгіні Смарг.
АКОЛІЦА ж. *Сенажаць.* Рэпля Ваўк., Тэлькаўшчына Іўеў., Горныя Самуйлавічы, Дольныя Самуйлавічы Маст.; *Балота.* Празнікі Свісл., Сухінічы Зэльв.; *Поле.* Нястанішкі Смарг., Церахавічы, Каліноўская Свісл.
АКОЛІЦКАЕ БАЛОТА. *Урочышча (балота).* Раднікі Ваўк.
АКОЛІЧНЫ м. *Лес.* Баранавічы Іўеў.
АКОЛЬНО н. *Поле (сярод лесу).* Акачы Слонім.
АКОНЕЧКО н. *Возера.* Лозкі Шчуч.
АКОПА ж. *Урочышча (частка лесу).* Агульс Шчуч.; *Частка лесу (пасля вайны ў ямах (акопах) захоўвалі бульбу).* Амбілеўцы Шчуч.
АКОПЫ мн. *Кустоўе (з часу вайны засталіся акопы).* Копцевічы Смарг.; *Поле.* Дзедукі Лід.; *Месца ў лесе.* Коматава Гродз.
АКРА´ЙНІЧАК м. *Поле (невялікае памерам).* Гожа Гродз.
АКРУ´ГЛІЦА ж. *Сенажаць.* Кальчуны Ашм.
АКСА´НАВА КЛАДКА. *Кладка (зрабіў конюх Аксан).* Дзітрыкі Лід.
АКСА´НАВА МЛЫНІШЧА. *Урочышча (тут стаяў млын, які належаў Аксану).* Заборцы Лід.
АКСА´НАЎ РОЎ. *Канава.* Заборцы Лід.
АКСЕ´НЧЫКАЎ ЛЕС. *Лес (належаў Аксенчыку).* Малыя Масушыны Свісл.
АКСЮ´ТКА ж. *Поле (на былым хутары Аксюты).* Чэхі Астр.
АКТА´РЫ мн. *Поле (куплялі ў пана па гектарах).* Каліноўская, Савані Свісл., Рагозніца Маст., Казіміраўка Гродз.

АКУБЕ´ЛЕЎКА ж. *Сенажаць.* Плёткі Шчуч.
АКУ´ЛАВА ПОЛЕ. *Поле (каля хаты Акулы).* Астрына Шчуч.
АКУ´ЛІНА н. *Балота.* Навасёлкі Свісл.
АКУ´ЛІНА САЖАЛКА. *Сажалка (належала Акуліне).* Талькунцы Воран.
АКУНДОВІЧАЎ ЛЕС. *Лес (каля хаты Акундовіча).* Круні Смарг.
АКУНОВІЧА РЭЧКА. *Частка рэчкі (каля сядзібы Акуновіча).* Кладнікі Іўеў.
АКУНОВІЧАЎ ВЫГАН. *Выган (каля хаты Акуновіча).* Кладнікі Іўеў.
АКУ´ШКАЎСКІ ЛЕС. *Лес (каля хутара Акушкава).* Круні Смарг.
АКУ´ШЧЫНА н. *Хмызняк.* Заполле Навагр.
АЛА´ДКА ж. *Невялікая выспа (мае форму аладкі).* Акачы Слонім.
АЛЕ´ІШКА н. *Поле.* Ліпнікі Шчуч.
АЛЕ´ЙКА ж. *Дарога (каля царквы).* Пладовая Маст.; *Частка сенажаці (мае выгляд алеі).* Ліпнікі Шчуч.
АЛЕ´ЙКІ мн. *Лес (дрэвы пасаджаны радамі, у выглядзе алеяў).* Духаўляны Ваўк.
АЛЕ´ЙНІКАЎ. *Лес.* Малькавічы, Рыбалавічы Маст.
АЛЕКСЮКОВА МЯЖА. *Мяжа (на былым полі Алексюка).* Заборцы Лід.
АЛЕ´НЕВА ГАРА. *Поле.* Кавалі Слонім., Гароднікі, Сякераўцы Ашм.
АЛЁНІНА ГРАДА. *Сенажаць (належала Алёне).* Церахавічы Свісл.
АЛЕ´НСКІ САД. *Сад.* Карэвічы Шчуч.
АЛЕ´НЧЫНА ПОЛЕ. *Поле (належала Аленцы).* Кукалкі Ваўк.
АЛЕ´НЯЎ ПУШЧА. *Лес.* Задвор'е Слонім.
АЛЁС м. *Балота.* Купіск Навагр.; *Сенажаць (былое балота).* Сухінічы Маст., Аўсяніца, Бакшты, Церахі Шчуч.; *Паша.* Савічы Шчуч.
АЛЕ´СЕВА ДАРОГА. *Дарога (каля хаты Алеся).* Ждановічы Навагр.
АЛЕ´СЕВА САЖАЛКА. *Сажалка (належала Алесю).* Мілашэвічы Слонім.
АЛЕ´СІНЫЯ КУСТЫ. *Кустоўе (тут немцы расстралялі партызанку Алесю).* Міжэрычы Зэльв.
АЛЕ´СЬКАВА ПОЛЕ. *Поле (былы надзел Алеські).* Араны Ваўк.
АЛЕ´СЬКАЎ ЛУГ. *Урочышча (луг, побач жыў Алеська).* Пелеўцы Шчуч.
АЛЕ´СЯ ж. *Мяжа (яе праклала Алеся).* Мілашэвічы Слонім.
АЛЕ´ТАВЫ КУСТ. *Пагорак, кустоўе.* Навасёлкі Ашм.

АЛЁХНАВА н. *Лес (належаў пану Алёхну).* Лубянка Свісл.
АЛЕХНАВІ´К м. *Поле (тут рос алешнік).* Бакшты Шчуч.
АЛЁХНАЎШЧЫНА ж. *Лес.* Дабраволя Свісл.
АЛЕ´ХШЫЦКАЯ ДАРОГА. *Дарога (да в.Алекшыцы).* Лесннякі Ваўк.
АЛЕ´ШАВЫ КУСТ. *Пагорак.* Навасёлкі Ашм.
АЛЕ´ШКАВА ПОЛЕ. *Поле (належала Алешку).* Свайгіні Смарг.
АЛЕ´ШНІК м. *Сенажаць (тут раслі вольхі).* Вострава Смарг., Масцяны Астр.; *Лес (растуць вольхі).* Чарлёна Маст., Вільчашы Іўеў., Вераскова Навагр., Парэчча Гродз.; *Частка балота.* Забалацце Маст., Задвор'е Слонім.; *Кустоўе.* Якубаўцы Воран.
АЛЕШУКОЎ ЛУЖОК. *Сенажаць (належала Алешуку).* Дубна Маст.
АЛЕ´ШЫНКА ж. *Частка ракі (па берагах растуць алешыны).* Папераўцы Лід.
АЛЕ´Я ж. *Назва дарогі.* Пладовая Маст.
АЛІЗА´РАВА н. *Поле (належала Алізару).* Клінчаны Гродз.
АЛІМПІ´ЙСКАЯ ДАРОГА. *Дарога.* Кальчуны Ашм.
АЛІСЕ´ЕЎ АГАРОД. *Агарод (належаў Алісею).* Заполле Навагр.
АЛІСЕ´ЎСКА ДАРОГА (АЛІСЕ´ЎКА ж.). *Дарога (да вёскі Алісеевічы).* Церахавічы, Савані Свісл.
АЛІША´НКА ж. *Поле.* Аўсяніца Шчуч.
АЛУ´ДЗІ мн. *Поле.* Жукевічы Гродз.
А´ЛЧЫШЫНЫ ПАЛКІ. *Урочышча (каля хутара Алчыхі).* Доргішкі Ашм.
АЛЫ´НІНКА ж. *Сенажаць (належала памешчыку Алыну).* Новы Двор Ашм.
АЛЬБІ´НАЎ ГАЗОН. *Сенажаць (належала Альбіну).* Ятра Навагр.
АЛЬБІ´НІН АГАРОД. *Агарод (належаў Альбіне).* Селівонкі Дзятл.
АЛЬБІ´НІН КАЛОДЗЕЖ. *Калодзеж (належаў Альбіне).* Бабічы Шчуч.
АЛЬБІ´НІНА ЯМА. *Яма (сховішча для бульбы, належала Альбіне.)* Ракавічы Шчуч.
АЛЬБІНОЎ ДВОР. *Урочышча (былая сядзіба Альбіна).* Кладнікі Іўеў.
АЛЬБІНОЎ САД. *Сад (належаў Альбіну).* Вялікая Нявіша Шчуч.
АЛЬБІ´НЫ ЛЕС. *Лес (непадалёк жыла Альбіна).* Добавічы Іўеў.
АЛЬБЭРТАЎ САД. *Сад (належаў Альбэрту).* Пяцкуны Іўеў.
АЛЬБЯРЦІ´НСКАЕ ВОЗЕРА. *Возера (у межах п.Альбярцін).* Слонім.
АЛЬБЯРЦІ´НСКІ ЛЕС. *Лес (каля п.Альбярцін).* Слонім.

АЛЬКОЎСКАГА ЗАРАСНІК. *Кустоўе (каля былой хаты Алькоўскага).* Шлавенцы Воран.
АЛЬСЫ´. *Сенажаць.* Заполле Маст.
АЛЬТА´НА (АЛЬТА´НКА) ж. *Сажалка.* Пагародна Воран.
АЛЬФРЭДАЎ ХУТАР. *Урочышча (былы хутар Альфрэда).* Галімшчына Іўеў.
АЛЬФУКОЎСКІ ХМЫЗНЯК. *Кустоўе.* Чаплічы Лід.
АЛЬХА´ ж. *Балота (тут раслі вольхі).* Пладовая Маст.
АЛЬХАВЕ´Ц м. *Поле (каля балота, дзе растуць вольхі).* Пладовая Маст.
АЛЬХОВАЕ БАЛОТА. *Балота (растуць вольхі).* Свайгіні Смарг.
АЛЬХОВЫ ЛЕС. *Лес.* Княжаводцы Маст.
АЛЬХОВЫЯ ДАЛІНЫ. *Урочышча.* Эймінаўцы Бераст.
АЛЬХОЎКА ж. *Сенажаць.* Шчорсы Навагр.; *Ручай.* Навіны Навагр.; *Рака.* Студзенікі Свісл.; *Сенажаць (каля хутара Альхоўка).* Біцяняты Смарг.; *Ручай.* Навіны Навагр.; *Луг.* Эймінаўцы Бераст.; *Балота.* Нараты Смарг.; *Лес.* Купіск Навагр.; *Пагорак (расце вольха).* Чухны Ашм.
АЛЬХОЎНІК м. *Кустоўе.* Прудзяны Шчуч.
АЛЬХОЎШЧЫНА ж. *Балота (растуць вольхі).* Гальшаны Ашм.
АЛЬША´НІЦА ж. *Частка лесу (растуць вольхі).* Студзенікі Свісл.
АЛЬША´НКА ж. *Ручай.* Навасёлкі, Мілашэвічы Слонім., Малая Альшанка, Вялікая Альшанка Гродз.; *Частка рэчкі. (па берагах растуць вольхі).* Амбілеўцы, Чапаеўка Шчуч.; *Лес.* Дзевяткаўцы Шчуч.
АЛЬША´НСКАЯ ДАРОГА. *Дарога (да вёскі Гальшаны).* Ашм.
АЛЬША´НЦЫ мн. *Лес (растуць вольхі).* Рудня Свісл.
АЛЬШНЯ´К м. *Лес (растуць вольхі).* Руднішкі Астр.
АЛЬШОЎНІК м. *Балота (зарасло вольхамі).* Валэйшы Смарг.; *Частка лесу.* Агульс Шчуч.
АЛЬШЫ´МАЎСКІ ЛЕС. *Лес (каля вёскі Альшымава).* Лесцякі Ваўк.
АЛЬШЫНА´ ж. *Балота.* Дубароўшчына Дзятл., Пладовая Маст., Церахавічы, Каліноўская, Навасёлкі Свісл.; *Крыніца.* Мілашэвічы Слонім.; *Кустоўе.* Духаўляны, Ендрыхаўцы Ваўк., Галынка Бераст., Забагонне Зэльв.; *Лес (у ім пераважаюць вольхі).* Раганічы Шчуч., Казіміраўка, Асаўляны Маст.; *Частка ракі (па берагах яе растуць вольхі).* Дабрасельцы Зэльв.; *Луг.* Сушышкі Воран., Казіміраўка Гродз.
АЛЬШЫ´НАВА н. *Кустоўе (растуць вольхі).* Сугакі Ваўк.
АЛЬШЫ´НАЎКА ж. *Рэчка.* Шыйкі Зэльв.

АЛЬШЫ´НКА ж. *Балота (растуць вольхі).* Асіпаўцы, Зарачаны Воран.; *Луг.* Чэхі Астр.
АЛЬШЫ´ННІК м. *Лес (растуць вольхі).* Лапухова Слонім., Казіміраўка Гродз.
АЛЬШЭЎНІК. *Кустоўе.* Казлоўшчына Ашм., Сенцяняты Смарг.
АЛЬЯ´ШАВА ДЗЯЛЯНКА. *Урочышча (тут жыў Альяш).* Шундры Слонім.
АЛЮ´ШАВА КРУЧА. *Урочышча.* Бязводна Зэльв.
АЛЮШЫ´НКА ж. *Частка ракі Нёман (берагі густа зарослыя чаротам).* Багатырэвічы Маст.
АЛЯ´БКА ж. *Рэчка.* Аляны Ашм.
АЛЯКСА´НДРАВА БЯРОЗА. *Адзінокая бяроза (каля хаты Аляксандра).* Раманавічы Шчуч.
АЛЯКСА´НДРАВА н. *Лес (каля вёскі Аляксандраўка).* Духаўляны Ваўк.
АЛЯКСА´НДРАЎСКІ ЛЕС. *Лес (належаў Аляксандраўскаму).* Рудня Свісл.
АЛЯКСА´НДРЫКАВА ГАРА. *Пагорак.* Сямкова Навагр.
АЛЯКСЕ´ЕВА ГОРКА. *Пагорак (побач з полем Аляксея).* Чапаеўка Шчуч.
АЛЯКСЕЙЧЫ САД. *Сад (былая сядзіба Аляксейкі).* Задвор'е Зэльв.
АЛЯКСУ´ЦІНА ПОЛЕ. *Поле (належала Аляксуце).* Дубна Маст.
АЛЯКСЯ´К м. *Скрыжаванне дарог (каля былой хаты Алексяка).* Ханчыцы Свісл.
АЛЯНДА´РНЯ ж. *Поле.* Чэхі Астр.
АЛЯНДЭРНЯ (ГАЛЯНДЭРНЯ) ж. *Лес.* Купіск Навагр.
АЛЯНОЎСКІ (АЛЯ´НСКІ) ЛЕС н. *Лес (каля вёскі Аляны).* Ашм., Беняконі Воран., Ябравічы Смарг.
АЛЯНЦЭВІЧА САЖАЛКА. *Сажалка (належала Алянцэвічу).* Анжадава Ашм.
АЛЯСІ´НА ПОЛЕ. *Поле.* Ханявічы Свісл.
АЛЯШКЕ´ВІЧЫ мн. *Урочышча (шэраг пагоркаў).* Куцавічы Ашм.
АМАРЫКА´НТАЎ САД. *Сад (належаў Амарыканту).* Моцькаўцы Ваўк.
АМАРЫКА´НЦАВА СЦЕНКА. *Дарога (каля хаты Амарыканца).* Ханявічы Свісл.
АМАРЫКА´НЦІШЫНА ДАРОГА. *Дарога (каля хаты Амарыканціхі).* Круні Смарг.
А´МБА ж. *Яма.* Мілашэвічы Слонім.
АМБА´РНАЯ ВУЛІЦА. *Вуліца (праходзіць каля амбара).* Прырэчча Слонім.

АМБА´РНАЯ ДАРОГА. *Дарога (вядзе да калгаснага амбара).* Паўлава Слонім.
АМБРАЖЭВІЧАЎ ПОЛЕ. *Поле.* Погіры Ашм.
АМБРОСАВЫ КЛЁНЫ. *Клёны (каля хаты Амброса).* Круні Смарг.
АМБРУШКЕ´ВІЧА САЖАЛКА. *Сажалка (каля хаты Амбрушкевіча).* Вішнеўка Зэльв.
АМБРУШКЕ´ВІЧАВЫ СТАВЫ. *Ставы (для лоўлі рыбы, іх змайстраваў Амбрушкевіч).* Вішнеўка Зэльв.
АМБРУШКЕ´ВІЧАЎ КАМЕНЬ. *Камень (каля хаты Амбрушкевіча).* Дарані Свісл.
АМБРУШКЕ´ВІЧАЎ ЛУГ. *Луг (каля хаты Амбрушкевіча).* Вішнеўка Зэльв.
АМЕ´ЛЬКАВА БАЛОТА. *Сенажаць (каля хаты Амелькі).* Багудзенка Навагр.
АМЕ´ЛЬКІНА ЯМА. *Сховішча для бульбы (яма) (захоўвала бульбу Амелька).* Сямейкі Лід.
АМЕРЫКА´НСКАЕ ГАРАДЗІШЧА. *Урочышча (былая сядзіба Амерыканца).* Шапанавічы Ашм.
АМЕРЫКА´НСКІ ЛЕС. *Лес (каля хаты Амерыканца, чалавека, які пэўны час жыў у Амерыцы).* Кватары Бераст.
АМЕ´РЫНА ж. *Лес.* Яцкуны Астр.
АМІЛЬЯ´НАЎ КАМЕНЬ. *Валун (на надзеле Амільяна).* Пасуцічы Зэльв.
АМША´НКА ж. *Сажалка.* Пагароднa Воран.
АМШЭРАК м. *Лес.* Баяры Слонім.
АМШЭЧАК м. *Лес (парослы мохам).* Кальчуны Ашм.
АМЭЛЬЧЫНО н. *Поле.* Высацк Слонім.
АМЭРЫКА ж. *Лес.* Яцкуны Астр.
АМЯЛЬНІ´К м. *Лес.* Церахавічы, Каліноўская Свісл., Мілашэвічы Слонім.
АМЯЛЬЯ´НАВЫ БУГОР. *Пагорак (тут стаяў маяк, збудаваны Амяльянам).* Бабічы Шчуч.
АМЯЛЬЯ´НАЎ АГАРОД. *Агарод (каля хаты Амяльяна).* Куклічы Свісл.
АМЯЛЬЯ´НЧЫКАЎ МАЯК. *Маяк (каля хаты Амяльянчыка).* Раманавічы Шчуч.
АМЯЛЯ´НАЎСКІ ЛЕС. *Лес (належаў Амяляну).* Каліноўская Свісл.
АНАРА´ЦКІЯ ГРУДЭ. *Лес.* Малькавічы Маст.
АНА´ЦКАВА ПРОРВА. *Возера (каля в.Анацкі).* Дакудава Лід.
АНГАРЫ´ЖАК ж. *Поле.* Парэчча Гродз.

АНДРУКОЎШЧЫНА ж. *Поле (належала Андрукоўскаму).* Майсеевічы Ваўк.
АНДРУСЮКОЎ ХУТАР. *Поле (былы хутар Андрусюка).* Вішава Слонім.
АНДРУТОВЫ КЛЕТКІ. *Поле (належала Андруту).* Вугляны Смарг.
АНДРУ´ШАВА САЖАЛКА. *Сажалка (належала Андрушу).* Заборцы Лід.
АНДРУ´ШАЎ АЛЕШНІК. *Зямельны надзел (належаў сям'і Андрушаў).* Чаплічы Лід.
АНДРУ´ШКІНА ПОЛЕ. *Поле (належала Андрушку).* Малыя Масушыны Свісл.
АНДРЫВОНДЖЫ мн. *Былы маёнтак.* Бяйнюны Ашм.
АНДРЫЯ´НЫ мн. *Балота (тут быў хутар Андрыяна).* Корнадзь Свісл.
АНДРЭЙКАЎ АГАРОД. *Агарод (каля хаты Андрэйкі).* Міжэвічы Слонім.
АНЕ´ЛЬКІ ДАЛІНА. *Надзел зямлі (належаў Анельцы).* Кемейшы Воран.
АНЕ´ЛЬЧЫНА ДАРОГА. *Дарога.* Шыйкі Зэльв.
АНІ´ДАЛЬНЯ ж. *Студня.* Граўжышкі Ашм.
АНІ´СІМАЎ ЛЕС. *Лес (належаў купцу Анісіму).* Акачы Слонім.
АНІ´СКЕЙЧАЎ АГАРОД. *Поле (каля хаты Аніскевіча).* Ганчары Іўеў.
АНІ´СЬКАВА СТУДНЯ. *Студня (належала Аніську).* Шусцікі Ваўк.
АНІХОЎСКА ГРЭБЛЯ. *Грэбля (на дарозе да былой сядзібы пана Аніхоўскага).* Бабічы Шчуч.
АНІХОЎСКА ДАРОГА. *Дарога (да былой сядзібы пана Аніхоўскага).* Бабічы Шчуч.
АНІХОЎШЧЫНА ж. *Частка вёскі Бабічы.* Шчуч.
АНТ м. *Назва возера.* Парэчча Гродз.
АНТАКОЛЬ ж. *Частка вёскі.* Кемелішкі Астр., Суботнікі Іўеў.
АНТАКОЛЯ ж. *Частка вёскі Воўпа.* Ваўк.
АНТАНОВА н. *Сад і поле (належалі Антонаву).* Пашкавічы Воран.
А´НТАСЕЎ ЛЕС. *Лес (тут быў хутар Антася).* Струбніца Маст.
АНТА´СЬКАВА ПАША. *Сенажаць (належала Антаську).* Любары Лід.
АНТАЧКОВА н. *Сенажаць (належала Антачку).* Граўжышкі Ашм.
АНТОЛЕЎ АСІННІК. *Асіннік (былы надзел Антоля).* Зарачаны Воран.
АНТОЛЬЧЫН АГАРОД. *Агарод (належыць Антольцы).* Міжэвічы Слонім.

АНТОНАВА БАЛОТА. *Паша (побач было поле Антона).* Барадзіны Іўеў.
АНТОНАВА ДЗЯЛКА. *Поле (належала Антону).* Завадзічы Гродз.
АНТОНАВА ЖЫЎНІЦА. *Урочышча (тут жыў Антон).* Дубінка Гродз.
АНТОНАВА ПОЛЕ. *Поле (належала Антону).* Новы Двор Ашм.
АНТОНАСАВА ВОЗЕРА. *Возера (побач жыў Антонас).* Пескаўцы Лід.
АНТОНАЎ ЛЕС. *Лес (леснікам быў Антон).* Добавічы Іўеў.
АНТОНІХА ж. *Поле.* Вайкалы Шчуч.
АНТОСЕВА КЛАДКА. *Кладка (зрабіў Антось).* Бабічы Шчуч.
АНТОСЕВА КРЫНІЦА. *Крыніца (каля хаты Антося).* Ракавічы Шчуч.
АНТОСЕЎ ВІР. *Вір (каля хаты Антося).* Бабічы Шчуч.
АНТОСІН АГАРОД. *Агарод (належаў Антосі).* Шастакі Смарг.
АНТОСЬКАВА ГАРА. *Пагорак (на ім было поле Антоські).* Муляры Дзятл.
АНТОШЧЫНА ж. *Урочышча (частка лесу, дзе жыла Антоська).* Дубароўшчына Шчуч.
АНТУ´КАВА ДЗЯЛКА. *Поле (належала Антуку).* Казіміраўка Гродз.
АНТУ´ПАВА, н. *Урочышча (былая сядзіба генерала Антупава).* Церахавічы Свісл.
АНТУ´ПІСКА н. *Поле (належала пану Антупу).* Кавалі Свісл.
АНТУ´СЕВА БАЛОТА. *Сенажаць (належала Антусю).* Холстава Зэльв.
АНТУСЕ´ЎСКІ ДВОР. *Урочышча (былая сядзіба пана Антусеўскага).* Ятра Навагр.
АНТУЧЫ´ХІ ХУТАР. *Хутар (тут жыла Антучыха).* Зарачаны Воран.
АНТЫМОНАВАЕ БАЛОТА. *Сенажаць (належала Антымону).* Пастарыні Смарг.
АНТЫ´СЬКА м. *Урочышча (поле і хутар).* Гербелевічы Дзятл.
АНТЭ´НАЎ ЛУГ. *Луг (каля хаты Антэна).* Калінаўка Зэльв.
А´НЦІНА МЯЖА. *Мяжа (каля агарода Анці).* Нястанішкі Смарг.
А´НЦІНА ЯМА. *Яма (побач з хатай Анці).* Кладнікі Іўеў.
АНЦІ´ПАВА МЯЖА. *Мяжа (каля хаты Анціпа).* Варона Астр.
АНЦУ´ПАЎЧШЫНА, ж. *Балота.* Холстава Зэльв.
АНЦУ´ТАЎ БЕРАГ. *Бераг ракі (каля былой сядзібы Анцуты).* Багудзенка Навагр.
АНЦУ´ТАЎ ДВОР. *Урочышча (ранейшы пляц пана Анцуты).* Багудзенка Навагр.

АНЦЮ´ШКАВА ПОЛЕ. *Поле (належала Анцюшку).* Енчы Воран.
А´НЦЯЎ ВАДАПОЙ. *Вадапой (названы паводле ўласнага імя «Анця»).* Асіпаўцы Воран.
А´НЬЧЫНА ГАРА. *Пагорак (на ім стаяла хата Анькі).* Навасёлкі Слонім.
АНЮХОЎШЧЫНА (АНЮХОЎШЧЫЗНА) ж. *Поле.* Відэйшы Ашм.
АНЮ´ЦІНА ГОРКА. *Пагорак (каля агарода Анюты).* Рудня Свісл.
АНЮ´ЦІНА ГУМНО. *Калгаснае гумно (каля хаты Анюты).* Шастакі Смарг.
АНЮ´ЦІНА ДЗЯЛКА. *Поле (належала Анюце).* Клепачы Зэльв.
АНЮ´ЧЧЫНЫ КУСТЫ. *Кустоўе (названае паводле ўласнага імя «Анютка»).* Баруны Ашм.
АНЯЛЯ´НАЎСКІ ЛЕС. *Лес (каля вёскі Анялянаўцы).* Верашчакі Свісл.
АПАБОЛЕЎ САД. *Сад (ранейшы хутар Апаболя).* Казіміраўка Гродз.
АПАЛЁНІНА ГАРА. *Пагорак.* Сурвілішкі Іўеў.
АПА´ЛІ мн. *Балота, поле.* Граўжышкі Ашм.
АПАЛОНІК м. *Рэчка (у ёй шмат лічынак жабы – апалонікаў).* Кладнікі Іўеў.
АПАЛОНІКАВА ГРЭБЛЯ. *Грэбля (яе зрабіў Апалонік).* Заполле Навагр.
АПАНОВІЧАЎ ГРУД. *Пагорак (каля лесу, дзе стаяла хата Апановіча).* Баруны Ашм.
АПАНОВІЧАЎ ЛЕС. *Невялікі лес (каля хаты Апановіча).* Забагонне Зэльв.
АПАНОЎШЧЫНА, ж. *Поле.* Багданы Шчуч.
АПАРЫ´НА ж. *Частка балота.* Навасёлкі Слонім.
АПАРЫ´ЦКАВЫЯ ГОРЫ. *Пагорак (у канцы вёскі, дзе стаіць хата Апарыцкага).* Пладовая Маст.
АПЕ´ЙКАЎШЧЫНА ж. *Поле (належала Апейку).* Косічы Навагр.
АПЕ´ЛЬНЯ ж. *Пагорак (тут здабывалі вапну).* Задвор'е Слонім.
АПІТА´ ж. *Рэчка (каля вёскі Апіта).* Іўеў.
АПОСТАЛАЎ КАПЕЦ. *Капец (зроблены Апосталам).* Навасёлкі Слонім.
АПОТРАЕЎ МЛЫН. *Млын (належаў Апотраю).* Пасуцічы Зэльв.
АПОШНЯ ж. *Поле.* Хрустава Свісл.; *Лес.* Ліпнікі Шчуч.
АПРЭ´ПАВА ГАРА. *Пагорак (за хатай Апрэпа).* Нястанішкі Смарг.
АПСОХ м. *Сенажаць.* Чарнякі Шчуч.; *Поле.* Стукалы Маст.
АРА´БЧЫКАЎ САД. *Стары сад (належаў Арабчыку).* Еўлашы Шчуч.

АРАДРОМ м. *Поле (на месцы былога аэрадрома).* Чапаеўка Шчуч.
АРАМБОЎСКІ ЛУГ. *Луг (тут жыў Арамбоўскі).* Куцавічы Ашм.
АРА´НСКАЕ ПОЛЕ. *Поле (за в.Араны).* Ваўк.
АРА´НСКАЯ ДАРОГА. *Дарога (да в.Араны).* Ваўк.
АРА´ПЧЫКАВАЕ СЕНА. *Сенажаць (належала Арапчыку).* Амбілеўцы Шчуч.
АРА´ПЧЫКАЎ САД. *Сад (належаў Арапчыку).* Еўлашы Шчуч.
АРБУТОЎСКІ ЛЕС. *Лес (каля в.Арбутова).* Ашм.
АРДЗЕ´ВІЧА ПОЛЕ. *Урочышча (былое поле Ардзевіча).* Апіта Іўеў.
АРЖА´ВІНА ж. *Балота (вада рудога, іржавага («аржавага») колеру).* Нястанішкі Смарг.
АРЖАВІ´НКА ж. *Сенажаць (расце жоўтая («аржавая») трава).* Ягаднава Смарг.
АРЛОВА н. *Лес.* Студзенікі Свісл.
АРЛОЎСКАГА ЛЕС. *Лес (належаў Арлоўскаму).* Расальшчына Іўеў.
АРУ´ЖАЙ м. *Сенажаць.* Альхоўка Навагр.
АРЦЮХОВА БУДКА. *Будынак, вартоўня (вартаўніком працаваў Арцюх).* Ракавічы Шчуч.
АРЦЮХОВА СУШКА. *Сушня (яе збудаваў Арцюх).* Раманавічы Шчуч.
АРЭХАВАЯ НІЗІНА. *Нізіна (парослая арэшнікам).* Задвор'е Слонім.
АРЭХАЎШЧЫНА ж. *Пагорак (расце шмат арэшніку).* Радзюны Ашм.
АРЭШАК м. *Сенажаць (тут шмат кустоў арэшніку).* Дубна Маст.
АРЭШНІК м. *Лес (тут шмат арэшніку).* Малькавічы Маст., Парэчча Гродз.
АРЭШНІКІ мн. *Урочышча (расце шмат арэшніку).* Поразава Свісл., Харціца Маст., Агульс Шчуч., Дорагава Карэл.; *Лес.* Казіміраўка Гродз.; *Балота.* Пладовая Маст.; *Кустоўе.* Заполле Маст.
АСАБНЯ´К м. *Палетак (падзелены на асобныя участкі).* Рагозніца Маст.
АСАВА´ ДАРОГА. *Дарога (праз асовы (асінавы) зараснік).* Кемейшы Воран.
АСАВЕ´Ц м. *Лес (пераважаюць асіны).* Альхоўка Навагр., Кавалі Слонім., Граўжышкі Ашм.
АСАВУ´ЗКА н. *Лес.* Руда Яварская Дзятл.
АСАВЭ´ мн. *Лес (растуць асіны).* Руда Яварская Дзятл.
АСА´ДА ж. *Частка вёскі.* Лаша Гродз., Чарлёна Маст., Навасёлкі Свісл.

АСА´ДНІКАВА ПОЛЕ. *Поле.* Дашкаўцы Маст.
АСАКА´ ж. *Балота.* Акачы Слонім., Казіміраўка Гродз.; *Лясок (сярод поля).* Сухінічы Зэльв.; *Частка сенажацi (тут расце асака).* Зноскі Ашм., Мілашэвічы Слонім.
АСАКОВА ГАРА. *Пагорак.* Копанькі Гродз.
АСАЎКІ´ мн. *Лес (у ім – балота, парослае асакою).* Рудня Свісл.
АСАЎСКІ´ ГАСЦІНЕЦ. *Дарога.* Шчорсы Навагр.
АСЁКЛІНА ж. *Сенажаць.* Вольдзікі Іўеў.
АСЕ´ЛІЦА ж. *Сенажаць.* Капці Дзятл.; *Урочышча.* Дзяляцічы Навагр.
АСЕНЯЧКОВА ПОЛЕ. *Урочышча.* Віцькі Гродз.
АСЕ´ЦКІ ЛУЖОК. *Сенажаць (належала Асецкаму).* Валэйкавічы Смарг.
АСІКОЎШЧЫНА ж. *Поле.* Вялікая Нявіша Шчуч.
АСІМКЕ´ мн. (АСЬМІНКІ´ мн.) *Поле.* Каўпакі Гродз.
АСІНА´ ж. *Лес.* Гайголі Астр., Поразава Свісл.
АСІ´НАЎ ГРУДОК. *Частка лесу (тут растуць асіны).* Аўсяніца Шчуч.
АСІ´НАЎКА ж. *Лес.* Гальшаны, Кальчуны Ашм.
АСІ´НІШКІ мн. *Луг.* Ліпнікі Шчуч.
АСІ´НКА ж. *Лес і поле (тут расла асіна).* Малая Воля, Скрундзі Дзятл.
АСІ´ННІК м. *Луг.* Яцыны Астр.; *Лес (пераважаюць асіны).* Парэчча Гродз.
АСЛОЎСКАГА ПОЛЕ. *Поле.* Кладнікі Іўеў.
АСЛОЎСКАЯ КУДРА. *Лясок.* Кладнікі Іўеў.
АСМА´ЛЕНАЯ ГАРА. *Пагорак (тут гарэў лес).* Лукшаны Ашм.
АСМА´ЛКІ мн. *Хмызняк (на месцы згарэўшага лесу).* Эймінаўцы Бераст.; *Частка вёскі.* Сялец Лід.
АСМА´ЛЬНІК м. *Лес (тут быў пажар).* Бабічы Шчуч.
АСМА´НАЎКА (АСМАНОЎКА) ж. *Хутар (тут жыў татарын Асман).* Біцяняты Смарг.
АСМОЛАВА н. *Балота (тут збіралі смалу).* Навасёлкі Свісл.
АСОВА ГРАДА. *Лес (у ім шмат асінаў).* Лубянка Свісл.
АСОВЫ ГРУД. *Сенажаць.* Верцялішкі Гродз.
АСОКА ж. *Паша.* Панямунь Гродз.
АСОЎКА ж. *Луг (побач растуць асіны).* Вердамічы Свісл.
АСОЧЫНА ж. *Рэчка.* Вялікія Сямюны Ашм.
АСТА´НАК м. *Сенажаць.* Навасёлкі Слонім.; *Паша.* Кавалі Свісл.
АСТА´ПАЎ ВІР. *Вір (на р.Котра, дзе лавіў рыбу Астап).* Ліпнікі Шчуч.

АСТА´ПАЎ ВЫГАН. *Паша.* Еўлашы Шчуч.
АСТА´ТКІ мн. *Поле.* Войдзевічы Маст.
АСТАШЫ´Н ГРУД. *Пагорак (мяжа паміж вёскамі Холстава і Бародзічы).* Холстава Зэльв.
АСТРАВЕ´Ц м. *Балота (формай нагадвае востраў).* Воўпа Ваўк., Аўсяніца, Бабічы Шчуч.
АСТРАВОК м. *Урочышча.* Гіры Астр.; *Лес.* Парэчча Слонім., Студзенікі Свісл.; *Луг.* Селівонкі Дзятл., Клепачы Зэльв.; *Частка вёскі.* Загор'е Карэл., Задвор'е Слонім.
АСТРАВУХАЎ САСОННІК. *Лес (належаў Астравуху).* Чаплічы Лід.
АСТРАВЭ мн. *Балота.* Купіск Навагр.
АСТРАЖОК м. *Поле.* Вераб'евічы Слонім
АСТРАЎКІ´ мн. *Балота.* Малькавічы Маст., Ліпнікі Шчуч., Куклічы Свісл.
АСТРАЎНОЕ БАЛОТА. *Балота (на ім ёсць астраўкі).* Слаўчыненты Смарг.
АСТРОЎСКІЯ ПАЛЯНЫ. *Поле (належала Астроўскаму).* Бабічы Шчуч.
АСТРОЎШЧЫНА ж. *Лясны масіў.* Забагонне Зэльв.
АСТРЫ´НКА ж. *Рэчка і сенажаць (каля п.Астрына).* Шчуч.
АСТРЫ´НСКАЕ ВОЗЕРА. *Возера.* Астрына Шчуч.
АСТРЫ´НСКІ КАНЕЦ. *Частка вёскі (па дарозе да п.Астрына).* Бакшты Шчуч.
АСЬМІ´НКА ж. *Поле.* Княжаводцы Маст.
АСЬМІ´НКІ мн. *Паша.* Моцькаўцы Ваўк.
АСЬМІ´НЫ мн. *Поле.* Церахавічы Свісл.
АСЯНОЎКІ мн. *Балота.* Свайгіні Смарг.
АСЯРОДАК м. *Частка вёскі (цэнтр).* Заполле Навагр., Кукалкі Ваўк.; *Лес.* Каліноўская, Церахавічы Свісл.; *Поле.* Савані Свісл., Бакшты Шчуч.
АСЯРЭДАК м. *Поле (сярод лесу).* Мілашэвічы, Навасёлкі Слонім.
АТМЕ´Н м. *Поле (на ім вырошчвалі кмен).* Ханчыцы Свісл.
АТНОГА ж. *Лес.* Каліноўская Свісл.
АТОЖАЛЬНІК ж. *Хмызняк.* Граўжышкі Ашм.
АТУ´БРАЦЬ ж. *Поле.* Вольдзікі Іўеў.
АЎГУЛЁЎ ХУТАР. *Поле (былы хутар Аўгуля).* Нястанішкі Смарг.
АЎГУЛЁЎКА ж. *Ускраек лесу (тут жыў Аўгуль).* Юрчуны Астр.
АЎГУСТОВАК м. *Урочышча (былы маёнтак караля Станіслава Аўгуста).* г.Гродна.
АЎДОЛІН ВАЛУН. *Валун (на былым полі Аўдолі).* Асіпаўцы Воран.
АЎКШТОЛЯ ж. *Хутар.* Попішкі Астр.

АЎСЯ´ННІК м. *Лес (каля поля, дзе сеялі авёс).* Шылавічы Ваўк.
АЎТУХОЎ ВЫГАН. *Паша (побач жыў Аўтух).* Бабічы Шчуч.
АЎЧА´РНІК м. *Паша (тут стаяла панская аўчарня).* Дашкаўцы Маст.
АЎЧА´РНЯ ж. *Выган (тут стаяла калгасная аўчарня).* Рагозніца Маст.
АФІЦЫ´НЯ (АФІЦЫ´ЙНЯ) ж. *Будынак (належаў пану, прызначаўся для прыёму афіцыйных гасцей).* Вердамічы, Ханчыцы Свісл.; *Былая панская сядзіба.* Пагароднa Воран., Жамыслаўль Іўеў.
АФІЦЭРАВА ПОЛЕ. *Поле (належала Афіцэру).* Нарбутавічы Дзятл.
АХОДНІК м. *Поле.* Малькавічы Маст.
АХОЦКІ ЛЕС. *Лес.* Гервяты Астр.
АШУ´РКАВА н. *Лес (належаў пану Ашурку).* Каліноўская, Цэрахавічы Свісл.
АШЧАЛЬНІ´К м. *Лес (у ім шмат ляшчыны).* Дарані Свісл.
АШЧЭП м. *Лес.* Студзенікі Свісл.; *Хутар.* Навасёлкі Свісл.
АШЫ´ЕК м. *Лужок (выцягнутай формы).* Малдуці Дзятл.
АШЭЎШЧЫНА ж. *Глінішча.* Свайгіні Смарг.
АЭРАДРОМ м. *Поле (у час вайны тут быў аэрадром).* Клепачы Зэльв.; *Частка лесу (тут быў партызанскі аэрадром).* Бенякoні Воран., Вострава Маст.

# Б

БААДЭ´ м. *Сенажаць.* Тужаўляны Гродз.
БАБАЁЎШЧЫНА ж. *Частка лесу.* Амбілеўцы Шчуч.
БАБА´ЙКІ мн. *Балота.* Сабаляны Гродз.
БАБАЛЁЎКА ж. *Лес.* Майсеевічы Ваўк.
БАБАНОВА КРУШНЯ. *Крушня (побач з хатай Бабана).* Тэлькаўшчына Іўеў.
БАБАНОЎ ЛУГ м. *Луг (належаў Бабану).* Тэлькаўшчына Іўеў.
БАБАНОЎ САД. *Сад (належаў Бабану).* Тэлькаўшчына Іўеў.
БАБАНОЎ ШНУР. *Частка поля (належала Бабану).* Тэлькаўшчына Іўеў.
БА´БАЎ ГАРА. *Пагорак.* Хруcтава Свісл.
БАБЕ´НЯЎ ГРУД. *Поле (належала Бабеню).* Буцілы Лід.
БАБІЛІ´ мн. *Частка вуліцы (тут жылі мужчыны, якія адслужылі ў войску па 25 год, іх называлі «бабілямі»).* Заполле Навагр.

БА´БІН ГАЙ. *Частка лесу.* Малая Бераставіца, Муравана, Алекшыцы, Вішнеўка Берасг.
БА´БІН МОСТ. *Частка дарогі (тут была грэбля).* Руда Яварская Дзятл.
БА´БІНА ГАРА. *Пагорак.* Горбатавічы Карэл., Чашчаўляны, Лапенкі Гродз.
БАБІЧОВА ГРАДА. *Сенажаць.* Любча Навагр.
БАБІЧОЎСКАЯ ГРЭБЛЯ. *Грэбля (за вёскай Бабічы).* Шчуч.
БАБІЧОЎСКАЯ ДАРОГА. *Дарога (да вёскі Бабічы).* Раманавічы Шчуч.
БАБІЧОЎСКАЯ СТАЯНКА. *Стаянка для машын.* Бабічы Шчуч.
БАБІЧОЎСКІ ТАРФЯНІК. *Тарфянік.* Бабічы Шчуч.
БАБІЧОЎСКІЯ КАПЦЫ. *Капцы (для захавання бульбы).* Бабічы Шчуч.
БАБІ´ШКІ, мн. *Лес.* Ханчыцы Свісл.
БА´БКА ж. *Поле.* Дабраволя Свісл.
БА´БКАЎШЧЫНА ж. *Поле.* Якубаўцы Воран.
БА´БКІ мн. *Поле.* Кутнікі Ваўк.
БАБКІ´ мн. *Сенажаць.* Сакавічы Іўеў.
БАБКОВА СЕНАЖАЦЬ. *Сенажаць (належала Бабку).* Заполле Маст.
БАБЛЁЎШЧЫНА, ж. *Сенажаць (каля хаты Бабыля).* Засецце Дзятл.
БАБНЁВА ГАРА. *Пагорак (каля хаты Бабеня).* Белазораўцы Іўеў.
БА´БНІСА КУДРА. *Кудра (каля хаты Бабніса).* Белазораўцы Іўеў.
БА´БНІСАЎ САД. *Сад.* Белазораўцы Іўеў.
БАБНІСОВА КРУШНЯ. *Крушня (каля хаты Бабніса).* Белазораўцы Іўеў.
БАБНІСОВА ЯМА. *Яма (каля хаты Бабніса).* Белазораўцы Іўеў.
БАБНІСОЎ ЛУГ. *Луг.* Белазораўцы Іўеў.
БАБОВАЕ БАЛОТА. *Балота (расце бабоўнік).* Свайгіні Смарг.
БАБОЙКА ж. *Сенажаць.* Студзенікі Свісл.
БАБОЎ САД. *Сад (належаў Бобу).* Вугляны Смарг.
БАБОЎНІК м. *Балота.* Слаўчыненты Смарг.
БАБРАЎШЧЫ´НА ж. *Востраў на р.Лаша (вяліся бабры).* Рымдзюны Астр.
БАБРОВА ВОЗЕРА. *Возера.* Навіны Навагр.
БАБРОВА ВЫСПАЧКА. *Выспа на рацэ.* Сухая Даліна Гродз.
БАБРОВА РЭЧКА. *Рэчка.* Азарычы Слонім.
БАБРОВАЯ ГАРА. *Пагорак.* Сянежычы Навагр.
БАБРОВАЯ КЛАДКА. *Кладка.* Навасёлкі Слонім.

БАБРОВІНЫ мн. *Урочышча.* Альхоўка Навагр.
БАБРОВІСКА н. *Поле.* Малыя Масушыны Свісл.
БАБРОВЫ ГРУД. *Поле.* Пладовая Маст.
БАБРОВЫЯ НОРЫ. *Балота.* Пладовая Маст., Гінэлі Воран.
БАБРОВЫЯ ХАТЫ. *Сажалка.* Пладовая Маст.
БАБРОЎ БЕРАГ. *Месца на рацэ (тут ёсць бабровыя хаткі).* Навасёлкі Слонім.
БАБРОЎКАЎШЧЫНА ж. *Поле (належала Баброўскаму).* Церахавічы, Занкі Свісл.
БАБРОЎНІКАВА ДАРОГА. *Дарога (да в.Баброўнікі).* Занкі Свісл.
БАБРОЎНІЦКАЯ СЕНАЖАЦЬ. *Сенажаць (каля в.Баброўнікі).* Студзенікі Свісл.
БАБРОЎСКАЯ ДАРОГА. *Дарога (да в.Бабры).* Воўпа Ваўк.
БАБРОЎСКАЯ ЦАРКВА. *Царква (у в.Бабры).* Чаплічы Лід.
БАБРОЎСКІ ВЫГАН. *Выган (каля в.Бабры).* Чаплічы Лід.
БАБРОЎСКІ ЛЕС. *Лес (каля в.Бабры).* Любары Лід.
БАБРОЎСКІ ЛУГ. *Луг.* Раўбішкі Воран.
БАБРОЎСКІ МАЯК. *Маяк (каля в.Бабры).* Чаплічы Лід.
БАБРОЎШЧЫНА ж. *Поле (на месцы балота, дзе вяліся бабры).* Вераб'евічы Слонім.
БАБРЫ´ мн. *Частка рэчкі (водзяцца бабры).* Крапіўніца Свісл.
БАБРЫНО н. *Месца на рэчцы (была бабровая хатка).* Калінаўка Зэльв.
БАБРЫ´НЫЯ БЕРАГІ. *Частка балота.* Самуйлавічы Маст.
БАБРЫ´ХА ж. *Астравок на р.Вілія (тут вяліся бабры).* Гервяты Астр.
БАБРЫ´ШКІ мн. *Урочышча.* Парэчча Гродз.
БАБРЫ´ШЧА н. *Сенажаць (тут вяліся бабры).* Чарлёна Маст.
БА´БСКА КУДРА. *Сажалка.* Сушышкі Воран.
БА´БСКАЯ ГРАЗЬ. *Балота.* Слаўчыненты Смарг.
БА´БСКІ БЕРАГ. *Частка берага.* Воўпа Ваўк.
БА´БСКІ БРОД. *Брод.* Кальчуны Ашм.
БА´БСКІ ГАЙ. *Частка лесу.* Сушышкі Воран.
БАБУ´ЛІН ЛЕС. *Лес (за хутарам «Бабулі»).* Лаўрынавічы Свісл.
БАБУ´НІНА СЦЕЖКА. *Сцежка.* Бязводна Зэльв.
БА´БЧЫН ЛЕС. *Лес.* Соргаўцы Смарг.
БАБЫЛЬСКА´Я ГАРА. *Пагорак (каля в.Бабылі).* Шылавічы Ваўк.
БАБЫЛЬСКОЕ ПОЛЕ. *Поле (каля в.Бабылі).* Шылавічы Ваўк.
БАБЫ´НАВАЕ БАЛОТА. *Балота.* Свайгіні Смарг.
БАГАНЕ´Ц м. *Поле.* Новы Двор Свісл.
БАГА´ТАЕ н. *Сенажаць.* Навасёлкі Свісл.

БАГАТЫРОЎ ЛУГ. *Луг.* Чаплічы Лід.
БАГДА´НАЎ ЗАРАСНІК. *Кустоўе (каля хаты Багдана).* Фалькавічы Лід.
БАГДА´НАЎ САСОННІК. *Хвойнік (пасадзіў Багдан).* Куцавічы Ашм.
БАГДА´НАЎШЧЫНА ж. *Поле.* Кавалі Слонім.; *Лес.* Граўжышкі Ашм.
БАГДАНІ´СІНА КЛАДКА. *Кладка.* Плёткі Шчуч.
БАГДА´НКА ж. *Возера.* Порaслі Лід.
БАГДАНОВА ПАЛЯНКА. *Рачны пляж (побач з хатай Багдана).* Бакшты Шчуч.
БАГДАНОВА ПОЛЕ. *Поле (тут жыў Багдан).* Вострава Маст.
БАГДАНОЎ АГАРОД. *Агарод (належаў Багдану).* Лесnúmкі Ваўк.
БАГДАНОЎ МОСТ. *Мост (каля хаты Багдана).* Вялікая Нявіша Шчуч.
БАГДЗЕ´ мн. *Лес.* Русота Гродз.; *Сенажаць.* Тужаўляны Гродз.
БАГДЗЕ´ВІЧА ЛЕС. *Лес (належаў Багдзевічу).* Цішканы Ашм.
БАГДЗЕ´ЙЧАВА ДАРОГА. *Дарога.* Сенцяняты Смарг.
БАГДЗЕ´ЙЧАВА ЛУКА. *Сенажаць (каля хаты Багдзевіча).* Сенцяняты Смарг.
БАГДЗЕ´ЙЧАВЫЯ ТУНДРЫ. *Надзел зямлі (неўрадлівы, належаў Багдзевічу).* Сенцяняты Смарг.
БАГДЗЕ´ЙЧАЎ САД. *Сад (належаў Багдзевічу).* Вялікая Нявіша Шчуч.
БАГДЗЕ´ЙЧАЎ ХВАЙНЯК. *Лес (належаў Багдзевічу).* Чэневічы Іўеў, Сенцяняты Смарг.
БАГДЗЕ´ЛЕВА САЖАЛКА. *Сажалка (побач з хатай Багдзеля).* Плёткі Шчуч.
БАГЕ´НЕЦ м. *Луг (каля балота).* Новы Двор Свісл.; *Кустоўе (каля багна).* Забагонне Зэльв.
БАГЛІНА´ ж. *Балота.* Лаўрышава Навагр.
БА´ГНА ж. *Сенажаць.* Княжаводцы Маст.; *Топкае балота.* Махначы Слонім., Гервяты Астр.
БАГНАВА´Я ж. *Дарога (да торфазавода).* Пасуцічы Зэльв.
БАГНАРОТ м. *Сенажаць.* Сакавічы Іўеў.
БА´ГНАЎЦЫ мн. *Урочышча.* Парэчча Гродз.
БАГНО м. *Луг.* Запруддзе Зэльв.; *Балота.* Зубаўшчына Ваўк., Калбаскі Гродз.; *Возера.* Лабна Гродз.
БАГНОВА ГАРА. *Поле.* Лапухова Слонім.
БА´ГНЯВО н. *Хутар (каля багны).* Шыйкі Зэльв.
БАГОЙНІК м. *Лес.* Прудзяны Шчуч.
БАГОН м. *Лес (на былым балоце).* Зубаўшчына Ваўк., Каліноўская Свісл., Чарлёна Маст.; *Балота.* Сугакі Ваўк., Парэчча Гродз.; *Тарфяное балота.* Кавалі Свісл.

БАГРЭ мн. *Поле.* Бакшты Шчуч.
БАГУ´Н м. *Лес.* Рыбалавічы Маст.
БАГУНОЎ ЛУГ. *Луг.* Анжадава Ашм.
БАГУ´ЦКАЕ ПОЛЕ. *Поле (належала Багуцкаму).* Петрашоўцы Ваўк.
БАГУ´ЦКІ ЛЕС. *Лес (належаў Багуцкаму).* Духаўляны Ваўк.
БАГУ´ЦКІХ АГАРОД. *Агарод (каля хаты Багуцкага).* Трабы Іўеў.
БАГУШОЎСКІ ПЕРАЕЗД. *Чыгуначны пераезд (каля в.Багушоўка)* Гродз.
БАГУШЭВІЧАВА СЦЕЖКА. *Сцежка (праз поле Багушэвіча).* Пяцкуны Іўеў.
БАДА´НЫ ЛЕС. *Лес (растуць гонкія хвоі).* Парэчча Гродз.
БАДЗЕ´ЛЕЎШЧЫНА ж. *Балота.* Цярэшкі Ваўк.
БАЖКОЎ ЛЕС. *Лес.* Купіск Навагр.
БАЗА´РНІЦА ж. *Урочышча (узвышша).* Баранавічы Гродз.
БАЗНО н. *Возера.* Дзяляцічы Навагр.
БАЗЫ´КАЎСКІ ЛЕС. *Лес (лесніком працаваў Базык).* Залясоўшчына Іўеў.
БАЗЫЛЁВА ГРАНІЦА. *Пагорак (побач з хатай Базыля).* Багатырэвічы Маст.
БАЗЫЛЁВА МЯЖА. *Мяжа (побач жыве Базыль).* Калінаўка Зэльв.
БАЗЫЛЁВА ПОЛЕ. *Поле (належала Базылю).* Шыйкі Зэльв., Шусцікі Ваўк.
БАЗЫЛЁЎ БРОД. *Брод.* Васілевічы Слонім.
БАЗЫЛЁЎ КУРГАН. *Курган.* Чаплічы Лід.
БАЗЫЛЁЎ ЛУЖОК. *Частка лугу.* Вайкалы Шчуч.
БАЗЫЛЁЎ НАДЗЕЛ. *Сенажаць (касіў Базыль).* Заполле Маст.
БАЗЫЛІ´ мн. *Частка ракі.* Гневяншчына Гродз.
БАЗЫ´ЛЬ м. *Курган.* Шатэрнікі Астр.
БАЗЫ´ЛЬЧЫКАВА ПОЛЕ. *Поле.* Відзейкі Свісл.
БАЗЫ´ЛЬЧЫКАЎ ЛУГ. *Луг (належаў Базыльчыку).* Лесnúmякі Ваўк.
БАЙБА´К м. *Частка лесу.* Рудня Свісл.
БАЙГАТОВА МЕСЦА. *Месца на рацэ (тут утапіўся Байгот).* Бабічы Шчуч.
БАЙГОДАВА ГАРА. *Пагорак (адна з вяршыняў Магілянскіх гор).* Магіляны Бераст.
БАЙКОЎСКІХ ЛАЗНЯ. *Лазня (належыць Байкоўскім).* Казлоўшчына Ашм.
БАЙКОЎШЧЫНА ж. *Сенажаць (належала Байкоўскаму).* Гожа Гродз.; *Пагорак.* Русота Гродз.
БАЙШОЎКА ж. *Поле.* Засецце Дзятл.

БА´КАВА БЯРОЗА. *Бяроза (на ёй павесіўся Бак).* Асіпаўцы Воран.
БАКАЛЯ´РЫШКІ мн. *Поле.* Асіпаўцы Воран.
БАКАЎНІКІ´ мн. *Частка в.Руда Яварская.* Дзятл.
БАКАЎШЧЫ´НА ж. *Урочышча.* Парэчча Гродз.
БАКЕ´ЕВА ЯБЛЫНЯ. *Яблыня (пасадзіў Бакей).* Ведравічы Дзятл.
БАКЕ´ЎШЧЫНА ж. *Лес.* Заполле Навагр.
БАКОЎКА ж. *Яма (убаку ад вёскі).* Заполле Навагр.
БАКШТАНОВА ГРАНІЦА. *Мяжа (паміж калгасным полем і полем гаспадара Бакштана).* Ашмяны Гродз.
БАКШЧА´НСКА ЦАРКВА. *Месца ў вёсцы (тут стаяла царква).* Бакшты Шчуч.
БАКШЧА´НСКАЯ ГРАНІЦА. *Мяжа (каля вёскі Бакшты).* Шчуч.
БАКШЧА´НСКІ МАЯК. *Маяк (каля вёскі Бакшты).* Шчуч.
БАЛАБАНОВЫЯ КЛАДКІ. *Кладкі (паклаў ляснік Балабан).* Лесніца Гродз.
БАЛАМУ´ТАЎ ВЯТРАК. *Пагорак (тут стаяў ветраны млын, што належаў Баламуту).* Індура Гродз.
БАЛА´НДЗІЛАЎ ЛЕС. *Лес (тут жыў Баландзіл).* Малькавічы Маст.
БАЛАТА´ мн. *Сенажаць (былыя балоты).* Чарлёнка Дзятл.
БАЛАЦЯ´НКА ж. *Возера (побач з балотам).* Васілевічы Слонім.
БА´ЛАШАВА ГАРА. *Пагорак (на полі Балаша).* Малюшычы Карэл.
БАЛБАТОВА н. *Лес і поле (тут жыў ляснік Болбат).* Пескі, Рагозніца Маст.
БАЛБАТУ´СІНА ПОЛЕ. *Частка поля (былы надзел Балбатухі).* Селяхі Лід.
БАЛДАЎСКІ´ ЛУГ. *Луг (каля хаты Балды).* Леснякі Ваўк.
БАЛЕ´ЙКАВА БАЛОТА. *Луг.* Ятвезь Свісл.
БАЛЕ´НЕЎШЧЫНА ж. *Урочышча.* Кальчуны Ашм.
БА´ЛКА ж. *Рэчка (цячэ ў лесе).* Сугакі Ваўк.
БАЛКА´НЫ мн. *Пагорак (каля вёскі Верцялішкі).* Гродз.
БАЛОБАНАЎ АГАРОД. *Агарод (належаў Балобану).* Міжэрычы Зэльв.
БАЛОВІЧЫ мн. *Дарога (праз балота).* Ладзенікі Навагр.
БАЛОЙЦЕЧКІ (БАЛОЙЦІ) мн. *Паша (мокрае месца).* Вангі Лід.
БАЛОНЕ н. *Сенажаць.* Дзяляцічы Навагр.
БАЛОТА н. *Рэчка.* Равяцічы Навагр.; *Поле.* Прудзяны Шчуч., Відзейкі Свісл., Кладнікі Іўеў., Філіпаны Астр., Вангі Лід.; *Луг.* Карашава Гродз., Баяры, Масты Правыя Маст.; *Сенажаць.* Чарлёна Маст., Белазораўцы Іўеў.; *Тарфянік.* Рагозніца Маст., Міхайлоўшчына Ашм.

ДЗЯВОЦКІ КІРМАШ. *Месца (тут дзяўчаты збіраліся на вячоркі).* Заборцы Лід.
ДЗЯВОЧА ГАРА. *Пагорак (тут дзяўчаты збіраліся на вячоркі).* Шчапавічы Ашм.
ДЗЯВОЧАЯ МАГІЛА (ДЗЕ´ЎЧЫНА МАГІЛА). *Частка лесу (тут ёсць магіла дзяўчыны).* Замасцяны, Куляшы, Якубавічы Шчуч.
ДЗЯВОЧКА ж. *Канава.* Фалькавічы Лід.
ДЗЯВОЧЫЯ ПЕРАЛЕСКІ. *Лес.* Чаплічы Лід.
ДЗЯ´ГІЛІ мн. *Кустоўе алешніку (каля хаты Дзягіля).* Засецце Дзятл.
ДЗЯДЗІ´НЕЦ м. *Выган.* Вішнеўка Зэльв., Сушышкі Воран.; *Паша.* Кемейшы Воран.
ДЗЯДЗІНКАВО БАЛОТА. *Сенажаць (належыць Дзядзінку).* Заполле Навагр.
ДЗЯ´ДЗЮШКІ мн. *Поле.* Нястанішкі Смарг.
ДЗЯДОЎСКАЕ ПОЛЕ. *Поле.* Раўбішкі Воран.
ДЗЯ´ЖКІ ДРУГІЯ. *Поле (за полем пад назвай Дзяжкі).* Хадзяўляны Дзятл.
ДЗЯ´ЖКІ мн. *Балота, паша.* Муляры Дзятл.; *Поле.* Хадзяўляны Дзятл.
ДЗЯ´ЖЫНО ПОЛЕ. *Поле (мае круглую форму).* Шылавічы Ваўк.
ДЗЯ´КАВА ПОЛЕ. *Поле. (належыць «Дзяку»).* Дашкаўцы Маст.
ДЗЯ´КАЎ АСТРАВОК. *Сенажаць (належыць «Дзяку»).* Дашкаўцы Маст.
ДЗЯКОВА МЯЖА. *Мяжа (адмяжоўвае сенажаць «Дзяка»).* Цацкі Лід.
ДЗЯКОВА ПОЛЕ. *Поле (належала «Дзяку»).* Ведравічы Дзятл.
ДЗЯКОНСКАГА БАЛОТА. *Сенажаць (належала Дзяконскаму).* Ханявічы Свісл.
ДЗЯКОЎСКА ДАРОГА. *Дарога (да в. Дзякі).* Лесцякі Ваўк.
ДЗЯКОЎСКА ДУБРОВА. *Дуброва (каля в. Дзякі).* Лесцякі Ваўк.
ДЗЯКОЎШЧЫНА ж. *Поле (належала «Дзяку»).* Мігова Гродз.
ДЗЯКЦЯ´НКА ж. *Поле (належала Дзякцянскаму).* Ханявічы Свісл.
ДЗЯ´ЛКА ж. *Лес.* Міклашоўцы Маст., Гагарына Навагр.; *Поле.* Дашкаўцы Маст., Агароднікі Свісл., Яцыны Астр.
ДЗЯ´ЛКА ЗУБАТАЙ. *Частка поля (належала «Зубатай»).* Раманавічы Шчуч.
ДЗЯ´ЛКА ПАДСЕЧАНАГА ДУБА. *Пералесак (тут расце падсечаны дуб).* Заполле Навагр.
ДЗЯ´ЛКА ЧАРВІНСКАГА. *Сенажаць (належала Чарвінскаму).* Міклашоўцы Маст.
ДЗЯ´ЛКІ мн. *Поле (на ім часта давалі надзелы (дзялкі) калгаснікам).* Кладнікі Іўеў.

ДЗЯЛЯ´НКА ж. *Частка лесу.* Барадыны Іўеў., Агароднікі Свісл., Доўгае Шчуч.; *Частка поля.* Рагозніца Маст., Чапаеўка Шчуч., Юрэлі Воран.; *Выцераб.* Дарагляны Маст., Каліноўка Зэльв., Анжадава Ашм., Лапухова Слонім.; *Луг.* Шатэрнікі Астр.
ДЗЯЛЯ´НКІ мн. *Дарога (на месцы поля).* Рудня Свісл.; *Частка лесу (тут ёсць дзялянкі высечанага лесу).* Клепачы Слонім.; *Поле (падзеленае на вузкія палосы).* Фальваркі Астр.
ДЗЯМЕ´ННІК м. *Паша (побач быў хутар Дзямяна).* Чарлёнка Дзятл.
ДЗЯМЯ´НАВА ПОЛЕ. *Поле (належала Дзямяну).* Тапалёва Гродз.
ДЗЯМЯ´НАЎ ЗАРАСНІК. *Кустоўе (побач жыў Дзямян).* Бязводна Зэльв.
ДЗЯНІ´С м. *Поле (побач з хатай Дзяніса).* Сівіца Смарг.
ДЗЯРВА´Н м. *Лес (на былым полі).* Біцяняты Смарг.; *Луг.* Беняконі Воран., Вангі Лід.
ДЗЯРВЕЛЬСКІ ГАЙ. *Гай (каля в.Дзярвелі).* Вугляны Смарг.
ДЗЯРЖЫ´НСКІ МЛЫН. *Млын (належаў пану Дзяржынскаму).* Ракавічы Шчуч.
ДЗЯРКАЎШЧЫ´НА ж. *Поле.* Караневічы Гродз.
ДЗЯРКА´ЦКА БАЛОТА. *Балота (каля в.Дзеркачы).* Сухінічы Зэльв.
ДЗЯРКА´ЦКА ДАРОГА. *Дарога (да в.Дзеркачы).* Сухінічы Зэльв.
ДЗЯРНОЎКА ж. *Поле (парослае травой).* Парэчча Слонім.
ДЗЯРЭКТАРАЎ АГАРОД. *Агарод (належыць дырэктару школы).* Сарочыцы Маст.
ДЗЯСНА´ ж. *Поле (у даліне).* Пескаўцы Лід.
ДЗЯ´ТЛАВА н. *Лес.* Сугакі Ваўк.
ДЗЯ´ТЛАЎКА ж. *Даліна (за в.Александрова).* Гродз.
ДЗЯ´ТЛАЎСКА ДАРОГА. *Дарога (да г.Дзятлава).* Гернікі Дзятл.
ДЗЯТЛОВА н. *Поле (належала Дзятлу).* Кашалёва Навагр.
ДЗЯТОМЛЯНКА ж. *Рэчка.* Альхоўка Навагр.
ДЗЯЎБОЎСКІЯ мн. *Урочышча (былая сядзіба паноў Дзяўбоўскіх).* Залацеева Маст.
ДЗЯЎГУ´ТЫ мн. *Поле.* Копанькі Гродз.
ДЗЯЎЧА´Т КАЛОДЗЕЖ. *Калодзеж (належыць Дзяўчатам (мянушка незамужніх сясцёр, што жывуць разам)).* Асіпаўцы Воран.
ДЗЯ´ЦЕЛІНА ж. *Паша (расце трава дзяцеліна).* Каліноўская Свісл., Рудня Смарг.
ДЗЯ´ШКАВА ДЗЯЛКА. *Поле (належала Дзяшку).* Купля Смарг.
ДЗЯШКОВА ПОЛЕ. *Поле (належала Дзяшку).* Дашкаўцы Маст.
ДОБІН КАЛОДЗЕЖ. *Калодзеж (належаў Добе).* Мілашэвічы, Прырэчча Слонім.

ДОБРА МЕСЦА. *Паляна ў лесе (ягаднае месца).* Бабічы Шчуч.
ДОБРА НОЧКА. *Частка лесу.* Дубароўшчына, Капці, Руда Яварская Дзятл.
ДОБРАЧ ж. *Урочышча (былы хутар).* Панямонь Навагр.
ДОБРЫ БОР. *Лес.* Шчорсы Навагр.
ДОБЧЫНА ж. *Частка поля.* Кухары Шчуч.
ДОГІЛЕЎ САСОННІК. *Лес (лесніком працаваў Догіль).* Раманавічы Шчуч.
ДОГІЛЕЎ ХУТАР. *Урочышча (былы хутар Догіля).* Ракавічы Шчуч.
ДОГІНСКІ ХВОЙНІК. *Хвойны лес (каля в.Догі).* Чапаеўка Шчуч.
ДОЙНІШКІ мн. *Кустоўе.* Зарачаны Воран.
ДОЙШЫ мн. *Луг.* Новы Двор Ашм.
ДОЛ м. *Поле (у нізкім месцы).* Куклічы Свісл., Сабаляны Гродз., Малдуці Дзятл.
ДОЛАВАЯ ДАРОГА. *Дарога.* Бяйнюны Ашм.
ДОЛІК м. *Частка лесу.* Вострава Маст.
ДОЛІН РАВОК. *Яр (каля в.Балотца).* Шчорсы Навагр.
ДОЛІНКА ж. *Рачулка (у даліне).* Масовілішкі Ашм.
ДОЛЬГІШКІ мн. *Кустоўе.* Зарачаны Воран.
ДОЛЬКІ БЛІЖЭЙШЫЯ. *Поле.* Нястанішкі Смарг.
ДОЛЬКІ ВУЗКІЯ. *Поле.* Свайгіні Смарг.
ДОЛЬКІ ДАЛЕЙШЫЯ. *Поле.* Нястанішкі Смарг.
ДОЛЬКІ мн. *Поле.* Хацілавічы, Слаўчыненты Смарг.
ДОЛЬКІ ПАД ВЕРБНІКАМ. *Поле (былыя сялянскія надзелы).* Нястанішкі Смарг.
ДОЛЬКІ ШЫРОКІЯ. *Поле (былыя сялянскія надзелы).* Свайгіні Смарг.
ДОЛЬНАЯ ж. *Частка в.Шчорсы* Навагр.
ДОЛЬНЯЯ КУХНЯ. *Паша (на месцы былога маёнтка).* Пладовая Маст.
ДОЛЬСКІ РОЎ. *Поле (належала Дольскім).* Казіміраўка Гродз.
ДОМБРА ж. *Поле (мае форму домбры).* Енчы Воран.
ДОМІНА КУДРА. *Сенажаць (належала Доміну).* Кемейшы Воран.
ДОМНА ж. *Паша.* Галубы Маст.
ДОМШЫШКІ мн. *Поле.* Адэльск Гродз.
ДОНЕВАЯ ДАРОГА. *Дарога.* Чыжоўшчына Астр.
ДОРНІКАЎ САД. *Сад (належыць Дорніку).* Валэйшы Воран.
ДОРНЯКАЎ АГАРОД. *Агарод.* Якубаўцы Воран.
ДОСЕЎ ЛЯСОК. *Невялікі лес (побач жыў «Дося»).* Лаўрышава Навагр.
ДОЎБЕНКА ж. *Частка лесу (былая дуброва).* Міцкевічы Гродз.
ДОЎБНЯ ж. *Месца (былая бойня жывёлы).* Добавічы Іўеў.

ДОЎГА БАЛОТА. *Сенажаць (былое балота доўгай формы).* Савані Свісл.
ДОЎГА ДЗЯЛКА. *Сенажаць.* Пладовая Маст.
ДОЎГА ж. *Поле.* Чэневічы Іўеў.; *Лес.* Самуйлавічы Маст.
ДОЎГА НІВА. *Частка поля.* Чапаеўка Шчуч.
ДОЎГА ПАЛАСА. *Поле і лес (доўгай формы).* Вераскава Навагр.
ДОЎГА ПАСЕКА. *Лес (на месцы былой пасекі).* Малое Сяло Шчуч.
ДОЎГА ПОЛЕ. *Поле.* Альхоўка Навагр.
ДОЎГА РОЙСТА. *Лес.* Лозкі Шчуч.
ДОЎГАВА н. *Луг.* Дакудава. Лід.
ДОЎГАЕ БАЛОТА. *Балота.* Трабы Іўеў., Масцяны Астр., Макары Маст., Ганькі Слонім.; *Сенажаць.* Парэчча Слонім.
ДОЎГАЕ н. *Лес.* Струбніца Маст.
ДОЎГАЯ БУХТА. *Сенажаць.* Дзяляцічы Навагр.
ДОЎГАЯ ДАЛІНА. *Даліна (доўгая па форме).* Навасёлкі Дзятл.
ДОЎГАЯ ж. *Луг.* Любча Навагр.
ДОЎГАЯ СЕНАЖАЦЬ. *Сенажаць.* Добавічы Іўеў.
ДОЎГІ БАГОН. *Балота.* Дабраволя Свісл.
ДОЎГІ БАГОН. *Лес.* Церахавічы Свісл.
ДОЎГІ БОР. *Лес.* Корнадзь, Церахавічы, Каліноўская, Куклічы Свісл., Купіск Навагр.
ДОЎГІ ГРУД. *Поле (вузкае і доўгае).* Пладовая Маст.; *Лес.* Капці Дзятл.
ДОЎГІ ГРУДОК. *Паша.* Казіміраўка Гродз.
ДОЎГІ ЛЕС. *Лес.* Шлавенцы Воран., Пладовая Маст., Баранавічы Іўеў., Мадзейкі Зэльв.
ДОЎГІ ЛУГ. *Луг.* Пасуцічы Зэльв., Заполле Навагр., Дабрасельцы Свісл.
ДОЎГІ ЛУЖОК. *Луг.* Савінка Маст.
ДОЎГІ МОСТ. *Сенажаць.* Гудзінішкі Воран.
ДОЎГІ РОЎ. *Роў.* Шчачынова Гродз.
ДОЎГІ ШНУР. *Поле.* Асіпаўцы Воран., Свайгіні Смарг.
ДОЎГІЯ ВАЛОКІ. *Сенажаць.* Сугакі Ваўк.
ДОЎГІЯ мн. *Поле.* Хацілавічы Смарг., Кальчуны Ашм., Сакавічы Іўеў.; *Сенажаць.* Забалоцце Смарг., Падбалоцце Зэльв., Заполле, Лаўна Маст.
ДОЎГІЯ НАДДАТКІ. *Поле.* Свайгіні Смарг.
ДОЎГІЯ НІВЫ. *Сенажаць.* Вайкалы Шчуч.
ДОЎГІЯ НІЎКІ. *Частка лесу (доўгае і вузкае).* Сіўкава Гродз.
ДОЎГІЯ ПАЛІ. *Поле.* Эйсманты Гродз.
ДОЎГІЯ ШНУРЫ. *Поле.* Задвор'е Слонім.

ДОЎГІЯ ШНУРЫ. *Поле.* Нястанішкі Смарг., Фальваркі Астр., Задвор'е Слонім.
ДОЎЖАНСКІ ЛУЖОК. *Луг.* Ліпнікі Шчуч.
ДОЎЖЫЦА ж. *Рэчка (прыток р.Спужанкі).* Скідаль Гродз.
ДОЎЦА н. *Лес.* Ліпнікі Шчуч.
ДРА´БАЎШЧЫНА ж. *Поле (належала Драбу).* Васявічы Дзятл.
ДРАБІ´ЛКА ж. *Яр (тут дробняць каменне).* Навасёлкі Слонім.
ДРАБІНОЎШЧЫНА ж. *Сенажаць.* Дубна Маст.
ДРАБНУ´ХА ж. *Луг.* Лукі Карэл.
ДРАБУШКЕ´ мн. *Луг.* Грабяні Гродз.
ДРАГАЧУ´ШЧЫНА ж. *Поле.* Заполле Навагр.
ДРАГЛЁЎСКІ МОСТ. *Мост (каля в.Драглёўцы).* Семернікі Ашм.
ДРАЗГА´ЎШЧЫНА ж. *Балота.* Вострава Маст.
ДРАЗДАЎШЧЫ´НА ж. *Луг.* Радзявічы Маст.
ДРАЗДОВЫЯ ГОРЫ. *Пагоркі (каля хаты Дразда).* Жупраны Ашм.
ДРАЗДОВЫЯ ЛУЖКІ. *Сенажаць (вядуцца дразды).* Слаўчыненты Смарг., Духаўляны Ваўк.
ДРАЗДОЎКА ж. *Частка вёскі (тут жыве Дрозд).* Біцяняты Смарг.
ДРАЗДЭ´ мн. *Сенажаць (вядуцца дразды).* Ятра Навагр.
ДРА´ЙЛАЎШЧЫНА ж. *Лес.* Ялоўшчына Гродз.
ДРАНГАВА´Я ДАРОГА. *Дарога-грэбля (праз лес і балота).* Бакшты Шчуч.
ДРА´НІН ЛЕС. *Лес.* Ліпнішкі Ваўк.
ДРА´НІНЫ мн. *Лес.* Клявіца Ашм.
ДРАНІ´НЫ мн. *Лес.* Сінкіняты Іўеў.
ДРА´НІЦА ж. *Лес (пераважаюць вольхі і асіны).* Сугакі Ваўк.
ДРАПНЯ´К м. *Поле.* Кемейшы Воран.
ДРАЧЫ´ЛАЎКА ж. *Рака (каля в.Гагарына (старая назва Драчылава)).* Гагарына Навагр.
ДРА´ШКАВА н. *Частка лесу (тут жыў Драшка).* Прырэчча Слонім.
ДРАЯ´ ж. *Частка ракі (тут мылі бялізну).* Новы Двор Ашм.
ДРОБАЎ БУГОР. *Пагорак (былая сядзіба Дроба).* Бабічы Шчуч.
ДРОБЫЧЫ мн. *Лес.* Мастаўляны Лід.
ДРО´ВЫСКО м. *Частка лесу.* Кукалкі Ваўк.
ДРУГА´Я КАНАВА. *Канава.* Валэйкавічы Смарг.
ДРУГА´Я САПІТАРКА. *Дарога.* Куляшы Смарг.
ДРУГОЕ ПОЛЕ. *Поле.* Кісялі Астр.
ДРУ´ЖБА ж. *Дарога, шаша.* Стральцы Маст.
ДРУЗГЕ´НІЦКАЯ ДАРОГА. *Дарога (да Друзгенікаў).* Прывалкі Гродз.
ДРЫВОТНІКІ мн. *Пагорак (тут нарыхтоўвалі дровы).* Талмінава Ашм.

ДРЫГВА ж. *Частка балота (дрыгвяністая).* Ліпнікі, Кузьмы, Амбілеўцы Шчуч.
ДРЫГВО н. *Балота.* Верцялішкі Гродз.
ДРЫГУ΄ЧКА ж. *Дрыгвяністае балота.* Чухны Ашм.
ДРЫЖЭЛЬ м. *Дрыгвяністае балота.* Акачы Слонім.
ДРЫ΄НДА ж. *Абрыў, яр.* Валэйкавічы Смарг.
ДРЫНКІ΄ мн. *Лес.* Бершты, Лозкі Шчуч.
ДРЫНОЛЯ ж. *Частка поля (з неўрадлівай глебай).* Талькунцы Воран.
ДРЭКАЎШЧЫНА ж. *Луг.* Вішнеўка Зэльв.
ДРЭМАВЫ ЛЕС. *Лес (побач быў хутар Дрэмы).* Чыжоўшчына Астр.
ДРЭНІНА ж. *Балота, кустоўе.* Асіпаўцы Воран.; *Поле.* Гнесічы Навагр., Малыя Шастакі Дзятл.
ДРЭЦКІ ЛЕС. *Лес.* Драчаны Свісл.
ДРЭЧЧЫНА ж. *Частка поля.* Ляцк, Амбілеўцы Шчуч.
ДУБ м. *Возера (абсаджанае дубамі).* Скрундзі Дзятл.
ДУБ-ВОЗЯРО н. Запур'е, Ліхачы, Парэчча Гродз.
ДУБ НА МЯЖЫ. *Адзінокі дуб.* Казлоўшчына Ашм.
ДУБ'Ё н. *Поле (на месцы лесу).* Хадзявічы Слонім.
ДУ΄БАВА н. *Лес (растуць тры дубы).* Дабрасельцы Зэльв.; *Сенажаць.* Студзенікі Свісл.; *Частка лесу.* Хадзявічы Слонім.
ДУБАВЕ΄Ц м. *Возера.* Парэчча Гродз.
ДУБАВІ΄ХА ж. *Лес.* Галкавічы Навагр.
ДУ΄БАВІЦА ж. *Поле і сенажаць.* Альхоўка Навагр.
ДУБАВІ΄ЦА ж. *Частка вёскі (тут растуць дубы).* Сінкіняты Іўеў.; *Поле і сенажаць.* Заборцы Лід., Раваціцы Навагр.
ДУ΄БАВО н. *Поле (тут рос дуб).* Верашчакі, Працуцічы Свісл.; *Частка вёскі Ганькі.* Слонім.
ДУ΄БАВЫ мн. *Поле.* Чарлёна Маст.
ДУ΄БАЎ ЛУЖОК. *Луг.* Ханявічы Свісл.
ДУБАЎЕ΄ н. *Лес.* Дзеркачы, Сухінічы Зэльв.
ДУБАЧЫ΄НЫ мн. *Частка лесу.* Васілевічы Слонім.
ДУБ-ВЕЛІКА΄Н м. *Дуб.* Поразава Свісл.
ДУБЕ΄ЙКАЎ ПЛЯЦ. *Былы хутар Дубейкі.* Намейкі Шчуч.
ДУБЕ΄НІШКІ мн. *Лес (расце шмат дубоў).* Мастаўляны Лід.
ДУ΄БЕНСКА ЦАРКВА. *Царква ў в.Дубна.* Маст.
ДУ΄БЕНСКІ ПЕРАЕЗД. *Чыгуначны пераезд (каля в.Дубна).* Заполле Маст.
ДУБЁНСКІ РОЎ. *Роў.* Александрова Гродз.
ДУБІ΄ЛІН ПЛЯЦ. *Частка лесу.* Калечыцы Шчуч.
ДУБІ΄НА ж. *Лес.* Воўпа Ваўк., Апіта Іўеў.; *Месца ў лесе.* Агульс Шчуч., Гербелевічы Дзятл.; *Частка поля.* Вайкалы, Амбілеўцы

Шчуч.; *Кустоўе.* Лашавічы Свісл.; *Сенажаць.* Задвор'е Слонім., Дубна Маст.; *Месца ля ракі.* Нагорнікі Дзятл.
ДУ́БІНА ж. *Сенажаць.* Мілашэвічы Слонім.; *Паша.* Трахімавічы, Малая Воля Дзятл.
ДУБІНО н. *Поле.* Нарашы Шчуч.; *Частка вуліцы.* Мікалаеўшчына Слонім.
ДУБІ́НСКА ПОЛЕ. *Поле.* Кухары Шчуч.
ДУ́БІНЫ мн. *Лес.* Вільчаны Іўеў.
ДУ́БІСІН ПЛЯЦ. *Частка поля (належала «Дубісе»).* Будраўцы Шчуч.
ДУБІСІ́НЫ РАЗОРЫ. *Частка поля (належала «Дубісе»).* Калечыцы Шчуч.
ДУБІ́ЦКАГА РОЎ. *Роў.* Нястанішкі Смарг.
ДУБІ́ЦКАЕ ПОЛЕ. *Поле.* Варона Астр.
ДУБІЧА́НЕ мн. *Поле.* Раганічы Шчуч.
ДУБІЧА́НЫ мн. *Поле.* Кулеўцы Шчуч.
ДУБІ́ЧЧЫНА ПОЛЕ. *Поле.* Маркяняты Ашм.
ДУБІЧЫ́ мн. *Луг.* Амбілеўцы Шчуч.; *Частка поля.* Ляцк Шчуч.
ДУ́БІШЧА н. *Лес (шмат дубоў).* Бакшты Шчуч.; *Луг.* Мілашэвічы Слонім.; *Урочышча.* Сухая Даліна Гродз.
ДУБІ́ШЧА н. *Лес.* Хацілавічы Смарг., Мілашэвічы Слонім.; *Поле.* Альхоўка Навагр.
ДУ́БІШЧЫ мн. *Поле.* Галынь Навагр.
ДУБКІ́ мн. *Поле.* Навасёлкі Гродз., Мілашэвічы Слонім.; *Частка лесу.* Сыпаная Гара Гродз., Малькавічы Маст.
ДУБКОЎСКАЯ КРЫНІЦА. *Крыніца.* Нараты Смарг.
ДУ́БЛІВА н. *Мясціна (расце 5 дубоў).* Лапенкі Гродз.
ДУБЛЯ́НКА ж. *Пагорак (тут шмат ластаўчыных гнёздаў).* Лапенкі Гродз.
ДУ́БНА ж. *Лес.* Белякі Дзятл.
ДУ́БНАЎСКІЯ МАГІЛКІ. *Могілкі (каля в.Дубна).* Маст.
ДУБНЁВАЯ ПАЛЯНА. *Паляна (абсаджаная маладымі дубкамі).* Талькунцы Воран.
ДУБНІ́К м. *Частка лесу.* Доўгае Шчуч.; *Урочышча (тут расце некалькі вялікіх дубоў).* Граўжышкі Ашм.; *Паша (каля дубовага лесу).* Чарлёна Маст.; *Балота.* Дубна Маст.; *Поле.* Палубачкі Дзятл.
ДУБНІКІ́ АПІЦКІЯ. *Лес (каля в. Апіта).* Кладнікі Іўеў.
ДУБНІКІ́ мн. *Лес.* Асіпаўцы Воран.; *Паша і поле.* Белазораўцы Іўеў.; *Урочышча.* Фальваркі Астр.; *Дуброва і паша.* Шлавенцы Воран.; *Кудра і поле.* Апіта Іўеў.
ДУБНІКОВА ДАРОГА. *Дарога.* Белазораўцы Іўеў.

ДУБНІ´ЦА ж. *Поле (абсаджанае дубамі).* Духаўляны Ваўк.; *Рака (прыток Нёмана).* Дубна Маст.; *Балота.* Заполле Маст.
ДУБНІЧОК м. *Кустоўе.* Хадзяўляны Дзятл.
ДУБНОЎСКА ДАРОГА. *Дарога (да в.Дубна).* Заполле, Княжаводцы, Сухінічы Маст.
ДУБНЭ´ мн. *Поле.* Мастаўляны Лід.
ДУБНЯ´К м. *Балота.* Малая Воля Дзятл.; *Паляна.* Сівіца Смарг.; *Дуброва.* Крышылоўшчына Карэл., Петрашоўцы, Талькаўцы Ваўк.; *Лес.* Княжаводцы Маст.
ДУБНЯ´К м. *Дуброва.* Мільва-Бярэзіна Іўеў., Дубароўшчына Дзятл., Граўжышкі Ашм.
ДУБНЯ´КІ мн. *Кустоўе.* Баяры Лід.
ДУБНЯКІ´ мн. *Поле (на ім раслі 3 вялікія дубы).* Буцілы Лід.; *Дубовы лес.* Тапалёва Гродз.
ДУБНЯКОВА ДАРОГА. *Дарога (абапал растуць дубы).* Апіта Іўеў.
ДУБНЯТКОВЫЯ ЛЯСЫ. *Лес.* Жупраны Ашм.
ДУБОВА ГАРА. *Гара.* Талочкі Гродз.
ДУБОВА ДАРОГА. *Дарога (абсаджаная дубамі).* Бабічы Шчуч.
ДУБОВА н. *Лес.* Гута Дзятл.; *Пагорак.* Рэцімля Навагр.
ДУБОВА ПОЛЕ. *Поле.* Раманавічы Шчуч., Княжаводцы Маст.
ДУБОВАЕ н. *Поле.* Парэчча Слонім.
ДУБОВАЯ АЛЕЙКА. *Алея.* Пашкавічы Воран.
ДУБОВАЯ КАЛОДА. *Сенажаць.* Паўлава, Прырэчча Слонім.
ДУБОВІК м. *Балота.* Новы Двор Свісл.
ДУБОВІЦА ж. *Лес.* Замасцяны, Куляшы Шчуч.
ДУБОВЫ ДВОР. *Двор.* Бяйнюны Ашм.
ДУБОВЫ ЛЕС. *Лес.* Княжаводцы Маст.
ДУБОВЫ ЛУЖОК. *Луг.* Дарані Свісл., Баравікі Слонім.
ДУБОВЫЯ САДЗОНКІ. *Дубовы гай.* Струбніца Маст.
ДУБОЎКА ж. *Лес.* Дзіневічы, Каленікі Бераст.
ДУ´БРА ж. *Частка лесу (растуць адны дубы).* Чапунь Іўеў.
ДУ´БРАВА ж. *Лес (у ім растуць дубы-волаты).* Майсеевічы Ваўк., Равы Ашм.; *Паша.* Раманавічы Шчуч.; *Поле.* Караняты Астр., Сямейкі Лід., Лэйгабалі Гродз.
ДУБРА´ВЫ мн. *Поле (на ім растуць высокія дубы).* Нястанішкі Смарг.
ДУ´БРАЎКА ж. *Лес (у ім шмат дубоў).* Кавалі Слонім.
ДУБРА´ЎКА ж. *Месца каля р.Шчара (тут сплаўлялі лес).* Шундры Слонім.; *Частка балота.* Вышкава Карэл.; *Луг.* Матылі Шчуч.; *Сенажаць.* Пораслі Лід.; *Сажалка.* Замасцяны Шчуч.; *Урочышча.* Парэчча Гродз.

ДУБРА´ЎКІ мн. *Поле (растуць дубы).* Духаўляны Ваўк.; *Сенажаць.* Лапухова Слонім.; *Балота, кустоўе.* Дубароўшчына Дзятл.; *Лясок.* Хацькоўцы Ваўк.
ДУ´БРАЎСКАЯ ЯМА. *Урочышча.* Цацкі Лід.
ДУ´БРАЎШЧЫНА ж. *Частка вёскі Старадворцы.* Шчуч.
ДУБРОВА ж. *Поле і паша.* Гнесічы Навагр., Скрундзі Дзятл., Буцілы, Порaслі Лід., Чарлёна Маст.; *Лес.* Лаўрышава, Шчорсы Навагр, Раганічы Шчуч., Вензавец Дзятл., Агароднікі, Русота, Тужаўляны, Лапенкі, Цыдавічы Гродз., Свайгіні Смарг., Княжаводцы Маст.; *Сенажаць (на ёй раслі дубы).* Біцяняты Смарг.
ДУБРОВАЧКА ж. *Малады дубовы лес.* Лаўна Маст.
ДУБРОВІЦА ж. *Выган.* Мацёшыцы Навагр.
ДУБРОВІЦКІ ЛЕС. *Лес.* Рэцімля Навагр.
ДУБРОВЫ мн. *Лясок.* Вострава Маст.; *Сенажаць.* Сінкіняты Іўеў.
ДУБРОЎКА ж. *Лес (шмат дубоў).* Новы Двор Свісл., Забагонне Зэльв., Бяйнюны Ашм., Зубаўшчына Ваўк., Кватары Бераст., Струбніца Маст.; *Поле.* Новы Двор Свісл., Вялікая Воля, Капці Дзятл.; *Балота і поле.* Холстава Зэльв.; *Паляна (у дубовым лесе).* Свайгіні Смарг.; *Узлесак.* Кальчуны Ашм.
ДУБРОЎКІ мн. *Поле.* Ханявічы Свісл.
ДУБРОЎНА ж. *Поле.* Капці Дзятл.
ДУБРОЎНІЦКАЯ ж. *Дарога.* Клепачы Зэльв.
ДУБРОЎСКА СЕНАЖАЦЬ. *Сенажаць (за дубровай).* Раманавічы Шчуч.
ДУБРОЎСКІ ЛЕС. *Лес (у ім растуць дубы).* Лесннякі Ваўк.; *Частка лесу.* Дзітрыкі, Чаплічы Лід., Драчаны Свісл.
ДУБРОЎШЧЫЗНА ж. *Кустоўе.* Рудня Смарг.
ДУБРОЎШЧЫНА ж. *Частка поля.* Агульс Шчуч.
ДУБРУ´НСКІ КАЛОДЗЕЖ. *Калодзеж.* Заполле Навагр.
ДУБРУ´НСКІ ЛУГ. *Луг.* Заполле Навагр.
ДУ´БЧЫКА ПАСЕКА. *Пасека (належала Дубчыку).* Пашкавічы Воран.
ДУБЫ´ мн. *Частка лесу.* Заполле Маст.; *Сенажаць.* Бярындзішкі Ашм.; *Балота.* Свайгіні Смарг.; *Поле.* Ханявічы Свісл.; *Дубовы лес.* Дубінка Гродз., Крапіўніца Свісл., Масты Правыя Маст.
ДУБЭ´ мн. *Сенажаць.* Гнаінскія Дзятл., Капцёўка Гродз.; *Лес (у ім раслі дубы).* Эйсманты Бераст.; *Частка лесу.* Доўгае Шчуч.
ДУБЯЖЭ´ЙНЫ мн. *Сенажаць.* Лелюкі Іўеў.
ДУГА´ ж. *Востраў (у форме дугі).* Шундры, Прырэчча Слонім.; *Паша.* Рагозніца Маст.
ДУ´ГАРАВА н. *Частка лесу.* Руда Яварская Дзятл.

ДУ´ГНА ж. *Лес і поле.* Васявічы Дзятл.
ДУГНІ´ВА н. *Поле.* Стрыжаняты Іўеў.
ДУГНЫ´ мн. *Лес.* Дзедукі Лід.
ДУГНЭ´ мн. *Хваёвы лес.* Саваздзякі Дзятл.
ДУДАРОВА ПЯЧОРА. *Урочышча.* Заборцы Лід.
ДУ´ДЗІКАЎ РОЎ. *Роў (каля хутара Дудзіка).* Нястанішкі Смарг.
ДУДЗЯ´НКА ж. *Рака.* Малое Барава, Старчаняты Іўеў.
ДУ´ДКАЎ ЛЕС. *Лес (побач жыў Дудка).* Дзіневічы Бераст.
ДУ´ДЧЫН БЕРАГ. *Бераг Нёмана (побач з хатай Дудкі).* Пескі Маст.
ДУЖАВОГА ГРАНІЦА. *Мяжа.* Зарачаны Воран.
ДУ´ЖАЕ ПОЛЕ. *Лес.* Шчорсы Навагр.
ДУ´КАВА ЯМА. *Возера (на полі, якое належала Дуку).* Дакудава Лід.
ДУ´КЕЛЕВАЯ ГАРА. *Пагорак.* Мураваная Ашмянка Ашм.
ДУКОЙНІЦКІ ЛЕС. *Лес.* Дукойні Ашм.
ДУКОЙНІЦКІЯ ГОРЫ. *Пагоркі (каля в.Дукойні).* Ашм.
ДУ´ЛАВА ГАРА. *Поле.* Асіпаўцы Воран.
ДУ´ЛЯЎ ЗАРАСНІК. *Хмызняк.* Шлавенцы Воран.
ДУЛЯЎСКОЕ ПОЛЕ. *Поле.* Воўпа Ваўк.
ДУМБАВЕ´ЦКІ ЛЕС. *Лес (належаў пану Думбавецкаму).* Гімбуты Лід.
ДУМБА´НЕВА ж. *Назва дарогі.* Прудзяны Шчуч.
ДУ´МБЛО н. *Сенажаць.* Пяслі Гродз.
ДУМБЛЯ´НСКІ ЛЕС. *Лес.* Сушышкі Воран.
ДУНА´ЙЧЫК м. *Лясная рака.* Белякі Дзятл.
ДУ´НДАВА ЛАЗНЯ. *Лазня (належыць Дунду).* Заборцы Лід.
ДУ´НДАЎ МЛЫН. *Млын.* Заборцы Лід.
ДУНДУКОВА МЯЖА. *Мяжа.* Нястанішкі Смарг.
ДУНДУ´ЛА ж. *Частка лесу.* Бенякені Воран.
ДУ´НІНА КЛАДКА. *Кладка (насупраць Дунінай хаты).* Каліноўская Свісл.
ДУНЯКОЎШЧЫНА ж. *Поле.* Бакшты Шчуч.
ДУНЯ´ЧА ж. *Лес.* Пескі Маст.
ДУПЛЁЎКА ж. *Частка поля.* Вайкалы Шчуч.; *Частка сенажаці.* Калечыцы Шчуч.
ДУРАЛЁВА СЕНАЖАЦЬ. *Сенажаць.* Заполле Маст.
ДУРМАНОЎ ХМЫЗНЯК. *Хмызняк.* Заборцы Лід.
ДУРЭЙКАВА СЦЕЖКА. *Сцежка.* Круні Смарг.
ДУ´ТАВА н. *Поле.* Белякі Дзятл.
ДУФАРЭНСЫ мн. *Частка лесу.* Доўгае Шчуч.
ДУФАРЭНЦЫЯ ж. *Лес.* Поразава Свісл., Доўгае Шчуч.
ДУХВАРЭНЕЦ м. *Лес.* Церахавічы, Каліноўская Свісл.

ДУШАГУ´БКА ж. *Лес.* Янканцы Ашм.
ДЫ´ГАСАВА БАЛОТА. *Сенажаць (належала Дыгасу).* Лубянка Свісл.
ДЫ´ГАСАВА САЖАЛКА. *Сажалка.* Лубянка Свісл.
ДЫ´ГАЎКА ж. *Лес.* Замасцяны Шчуч.
ДЫ´МАРКА ж. *Рака.* Паўлава, Прырэчча Слонім.
ДЫМЛЁЎШЧЫНА ж. *Поле.* Замасцяны Шчуч.
ДЫНДУЛЁВА УСАДЗЬБА. *Поле (побач з хатай Дындуля).* Нястанішкі Смарг.
ДЫ´НІН АГАРОД. *Агарод (належыць Дыні).* Львоўка Ваўк.
ДЫРВА´Н м. *Даліна.* Вострава Маст.; *Балота.* Сугакі Ваўк.; *Поле.* Ляткі Маст.
ДЫ´САЎКА ж. *Лес.* Замасцяны Шчуч.
ДЭЙГІСІ мн. *Лес.* Раўбы Лід.
ДЭКШНЯЎСКІ ЛЕС. *Лес.* Карэвічы Шчуч.
ДЭМБЫ мн. *Лес.* Духаўляны Ваўк.
ДЭМСКАГА КУЗНЯ. *Кузня.* Крычнікі Іўеў.
ДЭМШЧЫНА ж. *Луг.* Клім Іўеў.
ДЭНДАВА ГРАДА. *Балота.* Ханявічы Свісл.
ДЭНДАЎ БЯРЭЗНІК. *Лес.* Куклічы Свісл.
ДЭНДАЎ ГРУД. *Пагорак.* Куклічы Свісл.

# Е

Е´ГЕРСКА ГАРА. *Пагорак.* Сабаляны Гродз.
Е´ДЗЯЎ ЛЕС. *Частка лесу.* Каргаўды Воран.
Е´ЖАВА ПОЛЕ. *Поле (каля хутара Ежкі).* Дашкаўцы Маст., Раманавічы Шчуч.
ЕЖАВІ´ЦА ж. *Лясная рэчка.* Табольская Будка Гродз.
Е´ЖКІН ЛЕС. *Лес.* Казіміраўка Гродз.
ЕЗ м. *Пераход праз рэчку.* Баруны Ашм.
ЕЗАВЕ´ЧЧЫНА ж. *Поле (належала езаўчанам – жыхарам в. Вензавец).* Гернікі Дзятл.
ЕЗАПОВА ПОЛЕ. *Поле.* Дабрасельцы Зэльв.
Е´ЗУБА ПОЛЕ. *Поле (належала Езубу).* Кемейшы Воран.
Е´ЗУБАЎ БРОД. *Брод (зроблены Езубам).* Навасёлкі Свісл.
Е´ЗУПЧЫКАЎ ГАРОД. *Поле (належыла Езупчыку).* Ліпнікі Шчуч.
ЕКАЦЯРЫ´НАЎСКАЯ ДАРОГА. *Дарога (каля Скідаля).* Скідаль Гродз.
Е´КШЫН-ГАРА. *Пагорак.* Парэчча Слонім.

Е́ЛАВО н. *Поле.* Азарычы Слонім.
Е́ЛАНЕ ЧОРНАЯ. *Балота.* Талмінава Ашм.
ЕЛАЎСКІ́Я БАЛОТЫ. *Сенажаць (належала пану Ялоўскаму).* Навасёлкі Свісл.
ЕЛАЎЦЫ́ мн. *Поле.* Гагарына, Ятра Навагр.
Е́ЛЕНКА ж. *Ручай.* Лядзіны Дзятл.
Е́ЛЕНСКА БАЛОТА. *Балота (каля ракі Ельня).* Дашкаўцы Маст.
Е́ЛЕНСКА ПОЛЕ. *Поле.* Дашкаўцы Маст.
ЕЛІНА ж. *Яловы лес.* Раганічы, Доўгае Шчуч.; *Поле (на месцы лесу).* Паўлава Слонім., Замасцяны Гродз.
ЕЛІСЕ́ЕЎКА ж. *Частка лесу.* Ліхачы Гродз.
ЕЛЬ ж. *Поле.* Зноскі Ашм.
Е́ЛЬНІК м. *Выган.* Гіравічы Іўеў.; *Кустоўе.* Церахавічы Свісл.; Дашкаўцы Маст., Барадыны Іўеў., Хадзяўляны Дзятл., Калінаўка Зэльв, Нараставічы Слонім.; *Лес (пераважна яловы).* Малькавічы Маст.
Е́ЛЬНІКІ мн. *Лес (пераважна яловы).* Ліпнікі Шчуч.
Е́ЛЬНЯ ж. *Рэчка.* Баяры Маст.
Е́ЛЬЦАЎШЧЫНА ж. *Урочышча.* Нізяны Ваўк.
Е́ЛЬЧЫН ХВОЙНІК. *Лес.* Першамайская Шчуч.
ЕЛЯГА́ ж. *Лес (пераважна яловы).* Граўжышкі Ашм.
Е́НДРЫХАЎСКА ДАРОГА. *Дарога.* Кукалкі Ваўк.
Е́НДРЫХАЎСКАЕ ПОЛЕ. *Поле.* Кукалкі Ваўк.
Е́НКЕВІЧАЎ ЛЕС. *Лес (належаў Енкевічу).* Зарачаны Воран.
ЕРМАКОЎ МАГАЗІН. *Крама (у былой хаце Ермака).* Забалацце Смарг.
ЕРМАКОЎШЧЫНА ж. *Поле.* Мікалаеўшчына Слонім.
ЕЎДАКОВА ГОРКА. *Пагорак.* Новы Двор Свісл.
ЕЎДАКОЎ АБРЫЎ. *Абрыў.* Новы Двор Свісл.
ЕЎДАКОЎ МОСТ. *Мост.* Новы Двор Свісл.
Е́ЎСА ж. *Сенажаць.* Навіны Навагр.
Е́ЎЧЫНА ПОЛЕ. *Поле (належала Еўцы).* Асіпаўцы Воран.
Е́ЎЧЫНА РЭЧКА. *Рэчка (каля надзела Еўкі).* Нястанішкі Смарг.
Е́ШМЫ мн. *Сенажаць.* Копанькі Гродз.

# Ё

ЁДЗЕВА ПОЛЕ (КРУШНЯ, ВЫГАН, САД). *Урочышча (былая сядзіба Ёдзі).* Кладнікі Іўеў.

ЁДКАВО БАЛОТА. *Сенажаць (належала Ёдку).* Заполле Навагр.
ЁДУШКІ мн. *Лес.* Каргаўды Воран.
ЁДЧЫНА ПОЛЕ. *Поле.* Белазораўцы Іўеў.
ЁДЫКАВА ГАРА. *Пагорак.* Ісаевічы Слонім.
ЁЗАФАЎ ЛЕС. *Лес (побач жыў Ёзаф).* Баруны Ашм.
ЁЗІКА ГУМЕНЦА. *Частка поля (тут стаяла гумно Ёзіка).* Красная Шчуч.
ЁЗІКАВА УСАДЗЬБА. *Урочышча (былая сядзіба Ёзіка).* Астрына Шчуч.
ЁЗІКАЎ ДВОР. *Урочышча.* Ганчары Маст.
ЁЗІКАЎ КУРГАН. *Поле (належала Ёзіку).* Асіпаўцы Воран.
ЁЗІН ПЛЯЦ. *Былы хутар Ёзі.* Багданы Шчуч.
ЁЗІЧКАВЫ ХУТАР. *Сенажаць (былы хутар Ёзічка).* Гербелевічы Дзятл.
ЁЛАВА н. *Луг.* Сугакі Ваўк.
ЁЛАЧКА ж. *Алея.* Мілашэвічы Слонім.
ЁЛАЧКІ мн. *Лес.* Шатэрнікі Астр., Навіны Навагр.
ЁЛКІ мн. *Балота.* Свайгіні Смарг.
ЁСЕЛЬ м. *Дуб.* Мілашэвічы Слонім.
ЁСКАЎШЧЫНА ж. *Сенажаць.* Дзямянаўцы Дзятл.
ЁСЬКАЎ ПАВАРОТ. *Часка лесу.* Раднікі Ваўк.
ЁСЬКАЎШЧЫНА ж. *Лес.* Сіўкава Гродз.
ЁТКАЎ ЛЕС. *Лес (належаў Ётку).* Граўжышкі Ашм.
ЁЎШЧЫНА ж. *Поле.* Белякі Дзятл.
ЁЧАЎ КАР’ЕР. *Яма.* Доўгае Шчуч.

# Ж

ЖА´БА-БАЛОТА. *Паша.* Сакавічы Іўеў.
ЖА´БІН ЛУГ. *Луг.* Ладзенікі, Лозкі Навагр., Дабрасельцы Зэльв.
ЖА´БІНА БАЛОТА. *Балота.* Араны Ваўк.
ЖА´БІНА ж. *Сажалка.* Мілашэвічы Слонім.
ЖА´БІНЕЦ м. *Балота.* Лозкі Шчуч.
ЖА´БІНО МЕСЦА. *Месца на рацэ.* Міжэрычы Зэльв.
ЖА´БІХА ж. *Поле.* Замасцяны, Матылі Шчуч.
ЖА´БІЦА ж. *Балота.* Хадзявічы Слонім.
ЖА´БКІ мн. *Балота.* Клепачы Зэльв.
ЖА´БНІК м. *Луг.* Руда Яварская Дзятл.

ЖАБРА´ЦКАЕ ПОЛЕ. *Поле.* Шылавічы Ваўк.
ЖАБУРЫ´НА ж. *Балота.* Арбутова Ашм.
ЖА´БЯЧА ВУЛІЦА. *Дарога.* Казіміраўка Гродз.
ЖА´ВАРАНКАВА ПАЛЯНА. *Паляна.* Навасёлкі Слонім.
ЖА´ВАРАНКАЎ ЛЕС. *Лес.* Шылавічы Ваўк.
ЖАВАРАНКОВА ПОЛЕ. *Поле.* Акачы Слонім.
ЖАГЛІ´ШКА ж. *Балота.* Слаўчыненты Смарг.
ЖАДЗЕ´ЙСКА ДАРОГА. *Дарога.* Хадзяўляны Дзятл.
ЖА´ДЗІКАВА ПАЛОСКА. *Поле.* Шылавічы Ваўк.
ЖАДУ´НЦАВА САЖАЛКА. *Сажалка (належыць Жадунцу).* Заполле Навагр.
ЖАКОЎШЧЫНА ж. *Дарога.* Шыйкі Зэльв.
ЖАЛЕ´ЗКІ мн. *Лес.* Прудзяны Шчуч.
ЖАЛЕ´ЗНА ж. *Пагорак.* Сямюны Ашм.
ЖАЛЕ´ЗНІЦА ж. *Возера.* Шчорсы Навагр.
ЖАЛЕ´ЗНЫ ЛЕС. *Лес.* Араны Ваўк.
ЖАЛЕ´ЗНЫ МАГАЗІН. *Крама.* Відзейкі Свісл., Дворышчы Лід.
ЖАЛЕ´ЗНЫ МОСТ. *Мост.* Скрыбаўцы Шчуч., Дайноўка Астр.
ЖАЛЕ´Я ж. *Сенажаць.* Радзішкі Астр.
ЖАЛУДЗЯ´НКА ж. *Рэчка.* Малое Сяло, Жалудок Шчуч.
ЖАЛЯ´СЕНСКА ДАРОГА. *Дарога.* Сухінічы Зэльв.
ЖАМОЙДАВА ГАРА. *Пагорак.* Ракавічы Шчуч.
ЖАМОЙДАВА ПОЛЕ. *Поле.* Шчучы Бор Іўеў.
ЖАМОЙДАВА СУШЫЛКА. *Сушылка.* Раманавічы Шчуч.
ЖАМОЙДАВЫ СЦЕЖКІ. *Сцежкі (да хаты Жамойды).* Бабічы Шчуч.
ЖАМОЙДАЎ КУРГАН. *Курган (каля хаты Жамойды).* Бабічы Шчуч.
ЖАМОЙТАВА СЕНАЖАЦЬ. *Сенажаць (належала Жамойту).* Галімшчына Іўеў.
ЖАНДОВА н. *Лес.* Стукалы Маст.
ЖАНДОВЫ ЛЕС. *Лес.* Караліно Гродз.
ЖАНДОВЫ ЛУГ. *Луг.* Бабічы Шчуч., Газа Астр.
ЖАРАМЯ´НЫ мн. *Поле.* Духаўляны Ваўк.
ЖАРАЎЛЁЎКА ж. *Сенажаць.* Сухінічы Маст.
ЖАРДЗІ´НЫ мн. *Месца былой сядзібы.* Юрэлі Воран.
ЖАРДУКІ´ мн. *Лес.* Мікалаеўшчына Слонім.
ЖА´РКАЎСКАЕ ПОЛЕ. *Поле.* Маркаўшчына Свісл.
ЖА´РКАЎШЧЫНА ж. *Лясніцтва.* Маркаўшчына Свісл.
ЖАРКОВА ДАРОГА. *Дарога (каля хаты Жарка).* Мадзейкі Зэльв.
ЖАРКОВЫ РАЎКІ мн. *Поле.* Старыя Нягневічы Навагр.

ЖАРНАКУ´ЛІШКІ мн. *Паша.* Сакавічы Іўеў.
ЖА´РНІШКІ мн. *Частка поля.* Багданы Шчуч.
ЖАРСТВА´ ж. *Поле (на ім шмат жвіру).* Забалоцце Смарг.
ЖАРСЦВЯ´НКА ж. *Кар'ер.* Хадзяўляны Дзятл.; *Поле.* Цыдавічы Гродз., Раганічы Шчуч.; *Лес.* Дзямянаўцы Дзятл.; *Частка р.Вілія.* Гервяты Астр.; *Урочышча.* Купіск Навагр.
ЖАРСЦВЯ´НКІ мн. *Поле.* Гожа Гродз., Нястанішкі Смарг.
ЖАРУ´БАЎ КАМЕНЬ. *Ягаднае месца ў лесе.* Верцялішкі Гродз.
ЖА´РЫК м. *Частка лесу (былое пажарышча).* Стаскелы Астр.
ЖАРЫ´ШЧАВА н. *Лес.* Дуды Іўеў.
ЖАРЭ´БЧЫКАВО БАЛОТА. *Паша.* Кукалкі Ваўк.
ЖАСІНА´ ДАЛІНА. *Поле.* Кукалкі Ваўк.
ЖАЎНЕ´РКА ж. *Пагорак.* Кусянцы Свісл.
ЖАЎНЕ´РЫ мн. *Пагорак.* Парэчча Гродз.
ЖАЎНЯРУКОВА МЯЖА. *Мяжа (адлучае агарод Жаўнярука).* Рымшыненты Смарг.
ЖАЎРАКОЎ РУЧАЁК. *Ручай.* Араны Ваўк.
ЖВЕГРА ж. *Урочышча (выток р.Ласасянкі).* Падліпкі Гродз.
ЖВІ´РКАЯ ДАРОГА. *Дарога.* Замасцяны Шчуч.
ЖВІРОК м. *Месца (каля р.Паша, дзе бяруць жвір).* Чэхі Астр.
ЖВІРОЎНЯ ж. *Поле.* Моцькаўцы, Петрашоўцы Ваўк., Гожа, Эйсманты, Сабаляны Гродз., Лаўрышава Навагр.; *Глінішча.* Холстава Зэльв.
ЖВІ´РЫСТАЕ ПОЛЕ. *Поле.* Нёман Маст.
ЖВЫРОЎНЯ ж. *Урочышча.* Лаўрышава Навагр.
ЖВЭРБЛЯ ж. *Поле.* Рымшыненты Смарг.
ЖДАНОВІЧАЎ(ВА) БРОД, ВЫГАН, КРУШНЯ, ХАТА. *Урочышча (былая сядзіба Ждановіча).* Белазораўцы Іўеў.
ЖДАНУКОВА ГАРА. *Пагорак.* Шусцікі Ваўк.
ЖДАНЮКОВА КАНАВА. *Канава (каля хаты Жданюка).* Фальваркі Астр.
ЖОДАЎСКАЕ ПОЛЕ. *Поле (каля в.Жодаўка).* Ашм.
ЖОЛЕВА н. *Сенажаць.* Куляшы Смарг.
ЖОРАЎ м. *Востраў (на ім часта можна ўбачыць журавоў).* Паўлава Слонім.
ЖОРНАЎКА ж. *Урочышча (сенажаць, балота і лес).* Нагорнікі, Вензавец Дзятл.
ЖОЎТАЕ ПОЛЕ. *Поле (з пясчанай глебай жоўтага колеру).* Шылавічы Ваўк., Навіны Навагр.
ЖОЎТАЯ ГРАЗЬ. *Балота (на ім гразь жоўтага колеру).* Слаўчыненты Смарг.
ЖОЎТАЯ ДАЛІНА. *Частка поля.* Шылавічы Ваўк.

ЖОЎТЫ БРОД. *Брод.* Парэчча Слонім.
ЖОЎТЫ РУЧАЙ. *Ручай (тут расце лотаць).* Сніпаўшчына Ашм.
ЖОЎТЫЯ ПЯСКІ. *Брод.* Аўсяніца Шчуч.
ЖУГАІ´ мн. *Сенажаць (належала Жугайскаму).* Сушышкі Воран.
ЖУГЕ´РЫ мн. *Поле.* Сугакі Ваўк.
ЖУДЗІ´ЛАВА ПАША. *Паша.* Вераб'евічы Навагр.
ЖУ´КАВАЯ ГАРА. *Пагорак.* Путрышкі Гродз.
ЖУ´КАЎ КАЛОДЗЕЖ. *Калодзеж (належыць Жуку).* Пасуцічы Зэльв.
ЖУ´КАЎСКІЯ мн. *Поле.* Вугляны Смарг.
ЖУ´КАЎШЧЫНА ж. *Асіннік.* Зарачаны Воран.
ЖУКЕ´ВІЦКАЕ БАЛОТА. *Сенажаць (каля в.Жукевічы).* Жылічы Гродз.
ЖУКЕ´ВІЦКІ ЛЕС. *Лес (каля в.Жукевічы).* Бераст.
ЖУ´КІШКІ мн. *Тарфянік (былая ўласнасць Жукоўскага).* Павіланцы Воран.
ЖУКОВА ДАРОГА. *Дарога (пачынаецца ад хаты Жука).* Багатырэвічы Маст.
ЖУКОВА ПОЛЕ. *Поле (побач была сядзіба Жука).* Кукалкі Ваўк.
ЖУКОЎ БРОД, ЛУГ. *Месца ў лесе (тут жыў Жук).* Замасцяны Шчуч.
ЖУКОЎ КУРГАН. *Пагорак (каля хаты Жука).* Пасуцічы Зэльв.
ЖУКОЎ ЛЕС. *Лес.* Бязводна Зэльв.
ЖУКОЎ УЗЛЕСАК. *Частка лесу (побач з сядзібай Жука).* Круні Смарг.
ЖУКОЎКА ж. *Сенажаць.* Клімавічы Зэльв.
ЖУКОЎСКАГО ЛЕС. *Лес (належаў Жукоўскаму).* Пяцкуны Іўеў.
ЖУКОЎСКІ ГРУДОК. *Сенажаць (каля сядзібы Жукоўскага).* Казіміраўка Гродз.
ЖУКОЎСКІ ЛЕС. *Лес.* Добавічы, Пяцкуны Іўеў.
ЖУКОЎСКІ МОСТ. *Мост.* Каліноўская Свісл.
ЖУКУ´ШЧЫНА ж. *Сенажаць.* Багудзенка Навагр.
ЖУ´ПЕРВІ мн. *Поле.* Пагародна Воран.
ЖУ´РАВА СЕНАЖАЦЬ. *Сенажаць (належала Журу).* Раманавічы Шчуч.
ЖУРАВІ´НАВА н. *Лес (тут растуць журавіны).* Круні Смарг.
ЖУРАВІ´ННАЕ БАЛОТА. *Балота (на ім растуць журавіны).* Драглёўцы Ашм.
ЖУРАВІ´ННІК м. *Балота.* Волькаўшчына Смарг., Баранавічы Іўеў.
ЖУРАВІ´НСКА КУДРА. *Азярцо.* Жылі Іўеў.
ЖУ´РАВЫЯ КАМЕННІ. *Камяні (каля хаты Журы).* Раманавічы Шчуч.

ЖУ´РАЎ КАНЕЦ. *Частка вёскі (апошняя хата належыць Журу).* Раманавічы Шчуч.
ЖУ´РАЎ ЛЯСОК. *Лес.* Грабяні Гродз.
ЖУРА´ЎКАВЫ ГОРЫ. *Пагоркі (на полі Жураўкі).* Цярэшкі Ваўк.
ЖУРАЎЛЁВА МЯЖА. *Мяжа (аддзяляе поле Жураўля).* Раманавічы Шчуч.
ЖУРАЎЛІ´НЕЦ м. *Луг (на ім часта можна ўбачыць жураўля).* Дзевяткаўцы Ваўк.
ЖУРАЎЛІ´НСКІ БАГОН. *Балота (на ім растуць журавіны).* Ялоўшчына Гродз.
ЖУРАЎЛІ´НЫ ЛУГ. *Луг.* Вярэйкі Ваўк.
ЖУ´РКАВА ГАРА. *Пагорак.* Малая Лапеніца Ваўк.
ЖУ´РКАЎ АГАРОД. *Агарод.* Моцькаўцы Ваўк.
ЖУРОВА КЛАДКА. *Кладка (зрабіў Жур).* Рудня Смарг.
ЖУРУ´ШКІ мн. *Лес.* Стрыжаняты Іўеў.
ЖУСІ´НСКІЯ ШНУРЫ. *Лес (у форме шнура).* Маргелі Астр.
ЖУСЫ´НКА ж. *Рэчка.* Кемейшы Воран.
ЖУЎРУКОВА ДВОРЫШЧА. *Сядзіба (належыць Жуўруку).* Раманавічы Шчуч.
ЖУ´ЧКАВА ГАРА. *Пагорак.* Крапіўніца Свісл.
ЖУ´ЧКАЎ ЛУЖОК. *Луг.* Доўгае Шчуч.
ЖУЧЫ´ХА ж. *Поле.* Астрына Шчуч.
ЖУЧЫ´ШЫНА СЦЕЖКА. *Сцежка (яе пратаптала Жучыха).* Забалоцце Смарг.
ЖУ´ШМА ж. *Паша.* Буцілы Лід.
ЖЫБАРТОЎШЧЫНА ж. *Поле.* Селівонкі Дзятл.
ЖЫБУЦІ´НАВА н. *Поле.* Варона Астр.
ЖЫВЕ´Ц м. *Папар.* Граўжышкі Ашм.
ЖЫВЯЛЁ´ВО ПОЛЕ. *Поле (былы хутар Жывяля).* Кукалкі Ваўк.
ЖЫГА´ЛКАВА КРЫНІЦА. *Крыніца.* Кукалкі Ваўк.
ЖЫГЯ´НКА ж. *Рака.* Харанжышкі, Шчапанавічы Ашм.
ЖЫГЯ´НСКАЕ БАЛОТА. *Балота.* Жэльвы Ашм.
ЖЫ´ДАВА ГАРА. *Поле.* Грабяні Гродз.
ЖЫДАМЛЯНСКА ЦАРКВА. *Царква ў в.Жыдомля.* Гродз.
ЖЫДКОВА ГАРА. *Пагорак.* Міжэрычы Зэльв., Галкавічы Навагр.
ЖЫДОМЛЯ ж. *Луг (каля в.Жыдомля).* Гродз.
ЖЫДОЎКА ж. *Пагорак.* Запруддзе Зэльв.; *Лес.* Нястанішкі Смарг.
ЖЫДОЎСКА ДАРОГА. *Дарога.* Казіміраўка Гродз.
ЖЫДОЎСКАЕ ПОЛЕ. *Поле.* Сугакі Ваўк.
ЖЫДОЎСКАЯ ГОРКА. *Пагорак (тут былі яўрэйскія могілкі).* Навагрудак.

ЖЫДОЎСКІ МАГІЛЬНІК. *Поле (тут былі яўрэйскія могілкі).* Шлавенцы Воран., Воўпа Ваўк., Орля Шчуч., Агароднікі Свісл.; *Частка лесу.* Трабы Іўеў.
ЖЫДОЎСКІ ПЕРАЕЗД. *Месца каля дарогі (тут жылі яўрэі).* Рагозніца Маст.
ЖЫДОЎСКІ РОЎ. *Роў (месца расстрэлу яўрэяў).* Каліноўская Свісл.
ЖЫДОЎСКІЯ АГАРОДЫ. *Поле (былы агарод яўрэя).* Гіравічы Іўеў.
ЖЫДОЎСКІЯ АКОПЫ. *Частка лесу (тут падчас ВАВ у акопах жылі яўрэі).* Рэпішча Дзятл.
ЖЫДОЎСКІЯ мн. *Балота.* Крапіўніца Свісл.
ЖЫДОЎСКІЯ МОГЛІЦЫ. *Могілкі.* Нягневічы Навагр.
ЖЫДОЎСКІЯ ЯМЫ. *Ямы ў лесе.* Каргаўды Воран.
ЖЫДОЎШЧЫНА ж. *Лес.* Зарачаны Воран., Вялікія Масушыны Свісл.
ЖЫДУ´НСКІ РАВОК. *Частка лесу.* Ятрань, Багудзенка Навагр.
ЖЫДУ´СЬКА ГАРА. *Пагорак.* Літаварцы Дзятл.
ЖЫДУ´СЬКА САЖАЛКА. *Сажалка.* Багудзенка Навагр.
ЖЫДУ´СЬКІЯ АКОПЫ. *Частка лесу.* Багудзенка Навагр.
ЖЫ´ЖАЙКА ж. *Рака.* Навасёлкі Ашм.
ЖЫЖНЕ´ЎСКАГА ЛОГ. *Сажалка.* Зноскі Ашм.
ЖЫ´ЖНЕЎШЧЫНА ж. *Урочышча (былая сядзіба пана Жыжнеўскага).* Сідляроўшчына Ашм.
ЖЫ´ЛА ж. *Поле.* Мастаўляны Гродз.
ЖЫЛІ´НКАЎШЧЫНА ж. *Урочышча (былая сядзіба пана Жылінскага).* Лапухова Слонім.; *Лес.* Вострава Слонім.; *Балота.* Лапухова Слонім.
ЖЫЛІ´НСКІ ЛЕС. *Лес.* Сушышкі Воран.
ЖЫЛЮКІ´ мн. *Поле (належала Жылюку).* Парэчча Гродз.
ЖЫ´НАЎСКІ ЛУГ. *Частка балота.* Цярэшкі Ваўк.
ЖЫ´НІШКІ мн. *Поле.* Грабяні Гродз.
ЖЫРМУ´НКА ж. *Рэчка.* Жырмуны Воран.
ЖЫРМУ´НСКАЯ ДАРОГА. *Дарога (да в.Жырмуны).* Вялікае Сяло Лід.
ЖЫРНАКОЎШЧЫНА ж. *Поле.* Кавалі Слонім.
ЖЫРОМСКАЕ н. *Частка берага ракі.* Ханчыцы Свісл.
ЖЫЦЯНКОЎ БЕРАГ. *Частка ракі.* Хралы Астр.
ЖЭЖКАЎ САД. *Сад.* Сухінічы Зэльв.
ЖЭКАЎШЧЫНА ж. *Урочышча (былая сядзіба Жэка).* Дылева Лід.
ЖЭЛЬВІНСКАЕ БАЛОТА. *Сенажаць (каля в.Жэльвы).* Ашм.
ЖЭНЕВА СЕНАЖАЦЬ. *Сенажаць (належала Жэню).* Шастакі Смарг.
ЖЭРСЦВЕННІЦА ж. *Сенажаць.* Аўсяніца Шчуч.

# З

ЗА БАГРЫНОЎКАМІ. *Поле.* Церахавічы Свісл.
ЗА БАЛОТАМ. *Поле.* Савані Свісл., Рагозніца Маст.
ЗА БАРСУКА´МІ. *Могілкі (побач былі барсуковыя норы).* Азарычы Слонім.
ЗА БОРАМ. *Поле (за борам).* Міклашоўцы, Княжаводцы Маст.
ЗА ВАЛОКАМІ. *Поле.* Мастаўляны Лід.
ЗА ВАРОТЫ. *Поле.* Сабаляны Гродз.
ЗА ВЁСКАЙ. *Луг.* Валэйшы Воран.
ЗА ВОЗЕРАМ. *Вадапой.* Мілашэвічы, Шундры Слонім.; *Паша.* Чарлёнка Дзятл., Кальчуны Ашм.; *Поле.* Кавалі Слонім.
ЗА ВЫ´ЖАР (ПАД ВЫ´ЖАР). *Поле (на месцы выгаралага лесу).* Дзямянаўцы Дзятл.
ЗА ГА´ЕМ. *Выган.* Шундры Слонім.; *Паша.* Рагозніца Маст.
ЗА ГАРОЙ. *Лес.* Прырэчча, Акачы Слонім.
ЗА ГАРОЮ. *Поле.* Вялікія Масушыны Свісл.
ЗА ГАРУ. *Поле.* Пладовая Маст.
ЗА ГАЯ´МІ. *Поле.* Васявічы Дзятл.
ЗА ГОРКАМІ. *Поле.* Буцілы Лід.
ЗА ГРУ´ДАМ. *Балота.* Табала Гродз.; *Паша (за пагоркам).* Чарлёнка Дзятл.
ЗА ГРЭБЛЯЙ. *Лес (каля сенажаці пад назвай Грэбля).* Ягаднава Смарг.
ЗА ГУ´МНАМІ. *Поле.* Раднікі Ваўк., Вялікія Масушыны, Савані Свісл.
ЗА ГУМНОМ. *Поле (за калгасным гумном).* Гута Дзятл.
ЗА ДАРОЖКАЙ. *Лес.* Гайголі Астр.
ЗА КАЛМА´НАМ. *Поле (за хатай селяніна з мянушай Калман).* Гіры Астр.
ЗА КАНЮШНЯЙ. *Поле (за калгаснай канюшняй).* Нястанішкі Смарг.
ЗА ЛАЗОЮ. *Балота.* Заполле Навагр.
ЗА ЛІ´ПАЙ. *Поле (за рэчкай Ліпа).* Галубы Маст.
ЗА ЛЫ´СУ ГОРУ. *Поле (за пагоркам).* Пладовая Маст.
ЗА ЛЮ´БАЙ. *Поле (за хатай Любы).* Заполле Маст.
ЗА МАРГОВАЙ ДАРОГАЙ. *Поле.* Літвінкі Гродз.
ЗА МАСТКОМ. *Затока.* Рагозніца Маст.
ЗА МАСТОК. *Лес (тут быў масток).* Рэпішча Дзятл.
ЗА МАСТОМ. *Поле.* Нястанішкі Смарг.
ЗА МІ´СЬКАЙ ДАРОГАЙ. *Поле.* Шылавічы Ваўк.
ЗА МЛЫ´НАМ. *Сенажаць.* Гудзенікі Астр.
ЗА МОСТАМ. *Поле.* Сабаляны Гродз.

ЗА НАВІНОЮ. *Поле.* Савані Свісл.
ЗА ПУЦЁЙ. *Поле.* Чарлёна Маст.
ЗА РАВА´МІ. *Сенажаць (знаходзіцца за канавамі).* Рымдзюны Астр.
ЗА РАВОК. *Паша (за ровам).* Кашалёва Навагр.
ЗА РАДУ´ТАМ. *Сенажаць (за хатай Радута).* Чэхі Астр.
ЗА РАЎКОМ. *Поле.* Буцілы Лід.
ЗА РОВАМ. *Паша (за ровам).* Чарлёна Маст.
ЗА СА´ДАМ. *Поле (за школьным садам).* Заполле Маст.; *Поле (за былым панскім дваром).* Расальшчына Іўеў.
ЗА САДОМ. *Агарод.* Задвор'е Слонім.
ЗА СА´ЖАЛКАЙ. *Поле.* Пладовая Маст.
ЗА СТАВА´МІ. *Поле.* Чэхі Астр.
ЗА ХА´ТАМІ. *Поле (надзелы вяскоўцаў).* Рагозніца Маст.
ЗА ХВАЙНЯЧКА´МІ. *Поле (за лесам).* Буцілы Лід.
ЗА ХЛЯВА´МІ. *Поле.* Палестыня Астр.
ЗА ЦАГЕ´ЛЬНЯЙ. *Лес (тут была цагельня).* Гервяты Астр.; *Поле.* Церахавічы Свісл.
ЗА ЦЕМРАЮ. *Балота.* Ханявічы Свісл.
ЗА Я´СЕЧКАМ. *Сенажаць (побач з хатай Ясечкі).* Шчорсы Навагр.
ЗААГАРОДЫ мн. *Поле (за агародамі).* Сінкіняты Іўеў.
ЗААЗЕ´Р'Е н. *Паша (за возерам).* Дашкаўцы Маст.
ЗААЗЁРСКІЯ мн. *Дарога.* Лозкі Шчуч.
ЗААКРУ´ГЛІЦА ж. *Лес.* Кальчуны Ашм.
ЗААЛЕ´ШНІК м. *Поле (за алешнікам).* Ганькі Слонім.
ЗААЛЬШЫ´ННІК м. *Луг.* Чэхі Астр.
ЗААСВА´ЛЬТАЎСКАЕ ПОЛЕ. *Поле (за асфальтаванай дарогай).* Раднікі Ваўк.
ЗААСЁЛАЧКА ж. *Сенажаць (за сялом).* Навіны Навагр.
ЗАБА´ВА ж. *Частка лесу.* Новы Двор, Ханявічы Свісл.; *Частка поля.* Кавалі Свісл.
ЗАБА´ВЕНСКАЕ ПОЛЕ. *Поле (належала Забавенскаму).* Новы Двор Свісл.
ЗАБА´ВЕНСКІ ЛЕС. *Частка лесу (належаў Забавенскаму).* Новы Двор Свісл.
ЗАБАГОННЕ н. *Балота.* Парэчча Гродз.
ЗА´БАЛАЦЕ н. *Поле (за балотам).* Навасёлкі Свісл.
ЗА´БАЛАЦКІ КАСЦЁЛ. *Касцёл (у вёсцы Забалаць).* Асіпаўцы Воран.
ЗА´БАЛАЦКІ МОСТ. *Мост (у вёсцы Забалаць).* Забалаць Воран.
ЗА´БАЛАЦЬ ж. *Балота.* Казлоўшчына Ашм.
ЗАБАЛОТА н. *Урочышча.* Дзяляцічы Навагр.

ЗАБАЛОТНІ ЛЕС. *Лес.* Дакудава Лід.
ЗАБАЛОТНІКІ мн. *Поле.* Расальшчына Іўеў.
ЗАБАЛОТНІЦА ж. *Луг (за балотам).* Крывая Ашм.
ЗАБАЛОЦЕ н. *Поле (за балотамі).* Баранава, Зарубічы Гродз.
ЗАБАЛОЦЦЕ н. *Сенажаць.* Воўпа Ваўк., Кальчуны Ашм.; *Поле.* Клепачы Зэльв.; *Паша.* Скоўдзічы Слонім., Воўпа Ваўк.; *Урочышча.* Капашчава Навагр.
ЗА´БАНКА ж. *Поле.* Парэчча Гродз.
ЗАБАРОН м. *Сенажаць.* Баранавічы Іўеў.
ЗАБАРОННАЕ н. *Лес.* Лозкі Навагр.
ЗАБАРЫ´ШКА ж. *Пагорак.* Родзевічы Ашм.
ЗА´БАХАЎ ЛЕС. *Лес (належаў Забаху).* Шчанец Шчуч.
ЗАБІТОЕ н. *Лес.* Струбніца Маст.
ЗАБІ´ТЫ ДОЛ. *Урочышча (былая панская сядзіба).* Граўжышкі Ашм.; *Даліна.* Шлавенцы Воран.
ЗАБІ´ТЫ ЛЕС. *Лес.* Войдзевічы Маст.
ЗАБЛОЦКАВА НАВІНА. *Лес.* Пасуцічы Зэльв.
ЗАБОК м. *Сенажаць і лес (збоку ад Нёмана).* Заполле Маст.
ЗАБОР м. *Паша (за борам).* Зарудаўе Маст.
ЗАБОР'Е н. *Лес.* Навасады, Савані, Церахавічы, Занкі Свісл.; *Сенажаць.* Забор'е Шчуч.
ЗАБОР'ЕЎСКАЯ ПРОСЕКА. *Прасека (у лесе пад назвай Забор'е).* Савані Свісл.
ЗАБОРАК м. *Балота (за борам).* Акачы, Прырэчча Слонім.
ЗАБОРАНСКАЯ ГРЭБЛЯ. *Грэбля (на дарозе да в.Забор'е).* Раманавічы Шчуч.
ЗАБОРАНСКІ КУРГАН. *Курган (каля в.Забор'е).* Бабічы Шчуч.
ЗАБОРАНСКІ ПЛЯЖ. *Пляж (каля в.Забор'е).* Бабічы Шчуч.
ЗАБОРАНСКІ ТАРФЯНІК. *Тарфянік (каля в.Забор'е).* Бабічы Шчуч.
ЗАБОРАЎСКАЕ ПОЛЕ. *Поле.* Дашкаўцы Маст.
ЗАБОРКІ мн. *Кустоўе.* Любна Карэл.
ЗАБОРНАЕ ВОЗЕРА. *Возера (за борам).* Карашава Гродз.
ЗАБОРНІКІ мн. *Сенажаць (за борам).* Мастаўляны Лід.
ЗАБОРСКА ДАРОГА. *Дарога (ідзе да лесу пад назвай Забор'е).* Савані Свісл.
ЗАБОРСКАЁ н. *Могілкі (за борам).* Каліноўская Свісл.
ЗАБРАДОК м. *Сенажаць (за бродам).* Заполле Маст.
ЗАБРАДЫ´ мн. *Поле.* Рудня Свісл.
ЗАБРОД м. *Сенажаць.* Ліпнікі Шчуч.; *Паша.* Раманы Іўеў.
ЗАБРОДАК м. *Сенажаць (за бродам).* Дашкаўцы Маст.
ЗАБРОДДЗЕ н. *Луг (за бродам).* Задвор'е Слонім., Шастакі Смарг.

ЗАБРОДЫ мн. *Поле (за возерам).* Ваверка Лід.
ЗАБРУБЕ´ННЕ н. *Поле (за лесам пад назвай Абруб).* Баяры Гродз.
ЗАБРУ´КІ мн. *Частка дарогі (пачынаецца за брукаванай дарогай).* Багатырэвічы Маст.
ЗАБУ´РТАКАЎШЧЫНА ж. *Сенажаць.* Сарочыцы Маст.
ЗАБЫ´ЛАЎКА ж. *Сенажаць.* Зубаўшчына Ваўк.
ЗАБЭЛІНА ЛАЗНЯ. *Лазня (належала «Забэлі»).* Круні Смарг.
ЗАВА´ДЗІЦКІ ВЫГАН. *Выган (у в.Завадзічы).* Гродз.
ЗАВАДСКА´Я ДАРОГА. *Дарога (да в.Кузьмічы, там ёсць вінзавод).* Львоўка Ваўк.
ЗАВАДСКА´Я РЭЧКА. *Ручай (каля былога завода).* Пархімаўцы Бераст.
ЗАВАДСКА´Я САЖАЛКА. *Сажалка (каля торфабрыкетнага завода).* Кальчуны Ашм.
ЗАВА´ЛЕ н. *Паша (у даліне сярод лесу).* Бабічы, Ракавічы Шчуч.
ЗА´ВАЛКА ж. *Поле (раней вымяралася валокамі).* Кладнікі Іўеў.
ЗАВА´ЛЫ мн. *Выспа.* Акачы Слонім.; *Сенажаць.* Забалоцце Смарг.
ЗАВА´ЛЬНЯ ж. *Паша (побач яма для смецця).* Енчы Воран.
ЗАВАРА´МІ мн. *Поле.* Баранавічы Гродз.
ЗАВАРОНКА ж. *Частка вёскі Фальваркі.* Астр.
ЗАВАРЫ мн. *Поле (у даліне).* Парачаны Лід.
ЗАВА´ЦКАВЫ ДАДАТКІ. *Сенажаць (насупраць хаты Завацкага).* Сінкіняты Іўеў.
ЗАВЕ´РШО н. *Поле.* Азарычы, Задвор'е Слонім.
ЗАВЕ´СКІ БОР. *Балота.* Ханявічы Свісл.
ЗАВІЛЕ´НЧЫКАЎ АГАРОД. *Агарод (належыць Завіленчыку).* Сарочыцы Маст.
ЗАВІНОЎШЧЫНА ж. *Паша (належала Завіноўскаму).* Агароднікі Гродз.
ЗАВІЦЦЁ н. *Частка лесу.* Дварэц Дзятл.
ЗАВІ´ШАНЬКІ мн. *Сенажаць (каля яе раслі вішні).* Воўпа Ваўк.
ЗАВОДНА ж. *Поле.* Шастакі Дзятл.; *Лес.* Жылічы Шчуч.
ЗАВОДНІЦА ж. *Лес.* Граўжышкі, Кальчуны Ашм.
ЗАВОДНЫ ЛЕС. *Лес (некалі пасаджаны людзьмі).* Біцяняты Смарг.
ЗАВОДНЫЯ мн. *Сенажаць.* Рэпішча Дзятл.
ЗАВОЙТАВА н. *Поле (належала войту).* Вераб'евічы Слонім.
ЗАВОНЕ н. *Поле (паміж пагоркамі).* Ятра Навагр.
ЗАВОР'Е н. *Луг, сенажаць (за ворным полем).* Біцеўцы Шчуч.
ЗАВОСТРАЎ м. *Поле.* Завельцы Астр.
ЗАВОСТРАЎЕ н. *Поле.* Бязданы Астр.
ЗАВУ´СЦЕ н. *Частка лесу (вузкая па форме).* Зачэпічы Шчуч.

ЗАВЫ´ГАН м. *Поле.* Валокі Карэл.; *Паша.* Акачы Слонім.
ЗАВЫ´ГАНСКАЕ ПОЛЕ. *Поле.* Біцяняты Смарг.
ЗАВЫГОННЕ н. *Поле.* Майсеевічы Ваўк.
ЗАВЯЛІ´КА н. *Поле.* Сабаляны Гродз.
ЗАГА´ДКА ж. *Поле.* Дашкаўцы Маст.
ЗАГА´ЕЦЬКІ мн. *Поле.* Пораслі Лід.
ЗАГА´Й м. *Поле і балота.* Белякі Дзятл.
ЗАГА´ЙНА БАЛОТА. *Поле (за гаем).* Ятра Навагр.
ЗАГА´ЙНА ПОЛЕ. *Поле (за гаем).* Косічы Навагр.
ЗАГА´ЙНІК м. *Лес.* Зубаўшчына Ваўк.
ЗАГА´ЙНІЦА ж. *Лес.* Мольнічы Навагр.
ЗАГАР'Ё н. *Хмызняк.* Багудзенка Навагр.
ЗАГАРА´ ж. *Частка лесу.* Заполле Маст.; *Частка поля.* Чапаеўка Шчуч.
ЗА´ГАРАД м. *Лес (за агародамі).* Лапенкі Гродз.; *Поле (за агародамі).* Казіміраўка Гродз.
ЗА´ГАРАДА ж. *Луг.* Ляцк Шчуч.; *Сенажаць.* Будраўцы Шчуч.; *Поле (тут былі агароды).* Стукалы Маст.; *Частка лесу (абгароджаная).* Рудня Свісл.
ЗА´ГАРАДЗЬ ж. *Поле.* Цяраспаль Свісл.
ЗА´ГАРАДКА ж. *Паша.* Пладовая Маст., Вугляны Смарг., Дубінка Гродз.
ЗА´ГАРАДКІ мн. *Луг.* Стукалы Маст.
ЗА´ГАРАДНЯ ж. *Паша.* Сніпаўшчына Ашм.
ЗА´ГАРАДЫ мн. *Поле.* Вярэйкі Ваўк.
ЗАГАРОДА ж. *Поле, паша.* Бабічы Шчуч.
ЗАГАРОДЗЕ н. *Дарога (ідзе за агародамі).* Анжадава Ашм.; *Поле (за вясковымі агародамі).* Стральцы Маст.
ЗАГАРОДКІ мн. *Поле.* Косічы Навагр.
ЗАГАРОДНІКІ мн. *Сенажаць.* Адэльск Гродз.
ЗАГАРОДНІЦА ж. *Паша.* Забалоцце Маст.
ЗАГАРОДЫ мн. *Дарога (ідзе за агародамі).* Жылі Іўеў., Петрашоўцы Ваўк.
ЗАГА´РПАЎШЧЫНА ж. *Поле.* Духаўляны Ваўк.
ЗАГАРЫ´ШКІ мн. *Пагорак.* Кемелішкі Астр.
ЗАГАРЭЎСКАГА ЛЕС. *Лес.* Бабынічы Слонім.
ЗА´ГАЦЕ н. *Частка лесу.* Заполле Маст.
ЗАГА´ЦЦЁ н. *Балота.* Ханявічы Свісл.
ЗАГА´ЦЦЕ н. *Поле.* Куклічы Свісл.
ЗАГА´ЦЬ ж. *Поле.* Сарочыцы Маст.
ЗАГЛЫ´БОКА н. *Сенажаць.* Заполле Маст.
ЗАГЛЫ´БОКАЕ н. *Частка лесу.* Чарлёнка Дзятл.

ЗАГОЙША н. *Балота.* Гожа Гродз.
ЗАГОН м. *Частка поля.* Навасёлкі Слонім.
ЗАГОНЧЫКІ мн. *Поле.* Жукевічы Гродз., Хацілавічы Смарг.
ЗАГОНШЧЫК м. *Сенажаць.* Духаўляны Ваўк.
ЗАГОНЫ мн. *Лес (на месцы поля).* Вардамічы Свісл.; *Поле.* Парэчча Гродз.
ЗАГОР'Е н. *Пагорак.* Рагозніца Маст.; *Лес.* Хацілавічы, Старчаняты Іўеў.; *Поле.* Кавалі, Парэчча, Васілевічы Слонім., Воўпа Ваўк., Лозкі Навагр.; *Луг.* Мікалаеўшчына Слонім.
ЗАГОРКА ж. *Лес.* Гагарына Навагр.; *Поле.* Акачы Слонім.
ЗАГОРСКАЯ КАНАВА. *Канава.* Дзяляцічы Навагр.
ЗАГОРСКІ ЛЕС. *Лес.* Загор'е Смарг.; *Лес (жыў пан Загорскі).* Янканцы Ашм.
ЗАГРАДА´ ж. *Паша (за маладым лесам).* Сухінічы Маст.
ЗАГРА´ДЗІНАВА ж. *Пагорак.* Хадзявічы Слонім.
ЗАГРА´ДЗІНО н. *Поле.* Хадзявічы Слонім.
ЗАГРАНІ´ЦА ж. *Поле.* Дашкаўцы Маст.
ЗАГРАНІ´ЧНЫ КЛЁН. *Клён.* Жамыслаўль Іўеў.
ЗАГРУ´Д м. *Сенажаць.* Чарлёнка Дзятл.
ЗАГРУ´ДДЗЕ н. *Поле.* Парэчча Слонім., Стукалы Маст.; *Лес (за грудам).* Бабічы Шчуч.; *Сенажаць.* Дашкаўцы Маст.
ЗАГРУДКОВАЕ БАЛОТА. *Балота.* Араны Ваўк.
ЗАГРУ´ШКІ мн. *Поле (побач растуць грушы-дзічкі).* Духаўляны Ваўк.
ЗАГУ´ЛІЧНЫХ САД. *Сад (належыць «Загулічнаму»).* Якубаўцы Воран.
ЗАГУ´ЛЬНІЧНЫХ КАЛОДЗЕЖ. *Студня (належыць «Загульнічнаму»).* Якубаўцы Воран.
ЗАГУ´МЕНІ мн. *Дарога.* Галынка Маст.
ЗАГУМЕ´НІ мн. *Поле.* Кладнікі Іўеў.
ЗАГУМЕ´НКІ мн. *Дарога.* Галынка, Бакшты Шчуч.; *Вуліца.* Кронькі Шчуч., Шлавенцы Воран.
ЗАГУМЁННАЯ ДАРОГА. *Дарога.* Сінкіняты Іўеў.
ЗАГУМЕ´ННЕ н. *Дарога.* Багатырэвічы, Мілявічы, Сугакі Маст., Анжадава Ашм., Новы Двор Свісл.; *Частка поля.* Дубароўшчына Дзятл.; *Паша.* Галкавічы Навагр.; *Сенажаць.* Косічы Навагр.; *Поле.* Забалоцце Маст., Кладнікі Іўеў., Міжэвічы Слонім., Майсеевічы Ваўк., Навіны Навагр., Ялаўшчына Гродз., Лозкі Шчуч.
ЗАГУМЕ´ННІ мн. *Дарога (праходзіць за гумнамі).* Вярбілкі Шчуч.; *Поле.* Засецце Дзятл.
ЗАГУМЕ´ННІЦЫ мн. *Поле.* Забалоцце Смарг.
ЗАГУ´МЕННЯ мн. *Поле (за гумнамі).* Стральцы Маст.

ЗАГУМЕ´НЬ ж. *Дарога.* Вайкалы Воран., Відзейкі Свісл.
ЗАГУ´МНА мн. *Вуліца.* Рагозніца Маст.; *Поле.* Падчарнейкі, Савані, Каліноўская Свісл., Сямейкі Лід., Пасуцічы Зэльв.
ЗАГУ´МНАВО н. *Сенажаць.* Паўлава Слонім.
ЗАГУ´МНАЕ н. *Поле.* Пяслі Гродз.
ЗАГУ´МНЕ н. *Паша.* Гербелевічы Дзятл.
ЗАГУ´МНЫ мн. *Дарога.* Дакудава Лід.
ЗАГУ´РА ж. *Балота (за пагоркам).* Рудзішкі Астр.
ЗАГУ´РАЎШЧЫНА ж. *Хутар.* Граўжышкі Ашм.
ЗАДАЛЕ´КА н. *Поле.* Малькавічы Маст.
ЗАДАРОГА ж. *Лес.* Шатэрнікі Астр.
ЗАДАРОЖАК м. *Поле.* Вялікая Нявіша Шчуч.
ЗАДАРОЖЖА ж. *Поле.* Прырэчча Слонім.
ЗАДАРОЖКА ж. *Поле.* Акачы Слонім.
ЗАДАРОЎ КУТ. *Сенажаць.* Гіравічы Іўеў.
ЗАДВОР'Е н. *Сенажаць.* Астрына Шчуч., Сямкова Навагр.; *Частка лесу.* Лямошаўцы Шчуч.
ЗАДВОРЫШЧА н. *Поле.* Рымдзюны Астр.
ЗАДЗЕ´МЕНЬ ж. *Урочышча.* Шчорсы Навагр.
ЗА´ДНІ ЛАЗ. *Поле.* Холстава Зэльв.
ЗА´ДНІ ЛУГ. *Луг.* Кукалкі Ваўк.
ЗА´ДНІ МЫС. *Сенажаць.* Багудзенка Навагр.
ЗА´ДНІЯ ЛУЖКІ. *Луг.* Любча Навагр.
ЗА´ДНІЯ мн. *Частка балота.* Літараўшчына Карэл.
ЗА´ДНІЯ ПАЛОСКІ. *Поле.* Зарэчані Свісл.
ЗА´ДНІЯ ШНУРЫ. *Поле.* Акачы, Задвор'е Слонім.
ЗА´ДНЯЯ ГАРА. *Поле.* Міжэвічы Слонім.
ЗА´ДНЯЯ СЕНАЖАЦЬ. *Сенажаць.* Навіны Навагр.
ЗА´ДНЯЯ СТРУГА. *Урочышча.* Лаўрышава Навагр.
ЗАДУ´Б'Е н. *Луг.* Селівонкі Дзятл.
ЗАДУ´БЕ н. *Урочышча (былы маёнтак).* Азёры Гродз.
ЗАДУ´БІШЧАНСКАЯ ДАРОГА. *Дарога.* Дубінка Гродз.
ЗАДУБРОВА ж. *Поле.* Парэчча, Ганькі Слонім.; *Лес.* Капці Дзятл.
ЗА´ДУШНА (ЗАДУШНО) н. *Поле.* Прырэчча Слонім.
ЗАДЫ´БА ж. *Сенажаць.* Косічы, Багудзенка Навагр.
ЗАЕ´ЛЛЕ н. *Выган (за ельнікам).* Свайгіні Смарг.; *Зараснік (растуць елкі).* Бабічы Шчуч.
ЗАЕ´ЛЬНІК м. *Луг (за яловым лесам).* Ханчыцы Свісл.
ЗАЕ´МСКА ПОЛЕ. *Поле.* Дашкаўцы Маст.
ЗАЁНЦАВО н. *Балотца і кустоўе.* Сухінічы Зэльв.
ЗА´ЕЧЫЯ ПАЛЯНЫ. *Бярозавы гай.* Малькавічы Маст.

ЗАЗАВОЗ м. *Балота.* Ліпнікі Шчуч.
ЗАЗА´ДНЕ ПОЛЕ. *Поле (за полем пад назвай Задне поле).* Дашкаўцы Маст.
ЗАЗАТОКА ж. *Сенажаць (за затокай).* Чарлёна Маст.
ЗАЗУ´ЛІНО БАЛОТА. *Балота (тут шмат зязюль).* Задвор'е Слонім.
ЗАЗЯ´ЛЬВЯНСК м. *Паша.* Дашкаўцы Маст.
ЗА´ЙКАВА ГАРА. *Пагорак.* Бабічы Шчуч.
ЗА´ЙКАВЫ ЯМЫ. *Бульбяныя ямы (каля хаты Зайка).* Галкавічы Навагр.
ЗА´ЙКАЎСКІЯ ДУБЫ. *Дубы.* Ляцк Шчуч.
ЗА´ЙЦАВА БАЛОТА. *Балота.* Вішнева Смарг.
ЗА´ЙЦАВА ГАРА. *Пагорак.* Сінкіняты Іўеў.; *Лес.* Ялоўшчына Гродз.
ЗА´ЙЦАВА ГЛІНІШЧА. *Глінішча (побач з хатай «Зайца»).* Сухінічы Зэльв.
ЗА´ЙЦАВА ГРЭБЛЯ. *Дарога.* Вярбілкі Шчуч.
ЗА´ЙЦАВА ДАРОГА. *Дарога (каля хаты Зайца).* Моцевічы Лід.
ЗАЙЦАВА МЯЖА. *Мяжа (аддзяляе поле Зайца).* Бабічы Шчуч.
ЗА´ЙЦАВА ПАЛЯНА. *Паляна (тут шмат зайцаў).* Пладовая Маст., Гервяты Астр.
ЗА´ЙЦАВАЕ ДРЭВА. *Яблыня.* Аўсядава Лід.
ЗА´ЙЦАВО н. *Паляна (тут шмат зайцаў).* Навасёлкі Слонім.
ЗА´ЙЦАВЫЯ ГЕКТАРЫ. *Поле.* Холстава Зэльв.
ЗАЙЧЫ´СІНА ДЗЯЛКА. *Поле (належала «Зайчысе»).* Чаплічы Лід.
ЗАКАБА´Н м. *Паша.* Дубна Маст.
ЗАКА´МЕНЕВА н. *Балота.* Азарычы Слонім.; *Поле (на ўскрайку ляжаць вялікія камяні).* Акачы Слонім.
ЗАКАНЦЫ´ мн. *Луг (у в.Навасёлкі).* Лід.
ЗАКАРЫ´ЦІНА *Поле.* Багудзенка Навагр.
ЗАКА´САНКА ШЛЯХЕЦКАЯ. *Частка вёскі Місявічы.* Воран.
ЗАКАСЦЕ´ЛЬЦЫ мн. *Частка пасёлка (за касцёлам).* г.п.Іўе.
ЗАКІ´ШКІ мн. *Лес.* Лэйгабалі Гродз.
ЗА´КЛО н. *Балота.* Заполле Маст.
ЗА´КЛЯ ж. *Мочула (тут мачылі каноплі).* Моцькаўцы Ваўк., Дубароўшчына Дзятл.
ЗАКЛЯ´ТАЕ БАЛОТА. *Балота.* Скрундзі Дзятл.
ЗАКЛЯШТОРКІ мн. *Сенажаць.* Лаўрышава Навагр.
ЗАКОМЫ мн. *Лес.* Шчонава Карэл.
ЗАКОТРА ж. *Сенажаць (за р.Котра).* Аўсяніца Шчуч.
ЗАКОТЫ мн. *Сенажаць.* Сінкіняты Іўеў.
ЗАКРА´ЕК м. *Сенажаць.* Казіміраўка Гродз.

ЗАКРАЕ´НСКА ДАРОГА. *Дарога.* Аўсяніца Шчуч.
ЗАКРАЕ´НСКІ МАЯК. *Маяк.* Аўсяніца Шчуч.
ЗАКРА´Й м. *Частка лесу і поле.* Аўсяніца Шчуч.
ЗАКРА´ЙКІ мн. *Поле.* Гожа Гродз.; *Сенажаць.* Агароднікі Гродз.
ЗАКРУ´ГЛАЎКА ж. *Поле.* Заполле Маст.
ЗАКРЫ´ВІНА ж. *Рэчка.* Міклашоўцы Маст.
ЗА´КРЫЖ н. *Поле (тут стаяў крыж).* Духаўляны Ваўк.
ЗАКРЭЎСКАЯ ДАРОГА. *Дарога.* Жылі, Закрэўшчына Іўеў.
ЗАКУПНЯ´ ж. *Поле (сяляне выкупілі яго ў пана).* Чарлёнка Дзятл.; *Лес.* Мілашэвічы, Акачы Слонім.
ЗАЛАГЧЫ´НА ж. *Сенажаць.* Навасёлкі Іўеў.; *Частка в. Кусціна.* Навагр.
ЗАЛАЗА´ ж. *Частка лесу.* Сухінічы Маст.; *Паша.* Сакавічы Іўеў.
ЗАЛАМА´НКА ж. *Частка ракі Валоўка (у гэтым месцы рака робіць паварот (заломліваецца).* Лаўрышава Навагр.; *Лес.* Свіслы Воран.
ЗАЛАТАНЯ´Ж м. *Сенажаць (тут расце трава залатарнік).* Студзенікі Свісл.
ЗАЛАТА´Я ГАРА. *Пагорак.* Зарудаўе Маст.
ЗАЛАТА´Я ЛІПА. *Старая ліпа (у Міткаўскім лесе).* Ляткі, Міткавічы Маст.
ЗАЛАТА´Я ЛЫЖКА. *Студня.* Крапіўніца Свісл.
ЗАЛАТНІКІ´ мн. *Сенажаць.* Падбалоцце Зэльв.
ЗАЛАТНІ´ЦА ж. *Поле (тут знаходзілі залатыя манеты).* Каленікаўшчына Ашм.
ЗАЛАТУ´ХА ж. *Поле (тут добра родзіць збажына).* Чарлёна Маст.
ЗАЛАТЫ´ БЕРАГ. *Сенажаць.* Духаўляны Ваўк.
ЗАЛАТЫ´ ЛЕС. *Лес.* Бязданы Астр.
ЗА´ЛАЎКА ж. *Паша.* Забердава, Валокі Карэл.
ЗА´ЛАЎКІ мн. *Луг (заліты вадой).* Лязневічы Навагр.
ЗАЛЕ´ВА ж. *Луг.* Шчорсы Навагр.
ЗАЛЕ´ВЫ мн. *Балота (у лесе).* Гіравічы Іўеў.
ЗАЛЕ´С м. *Поле.* Ганькі Слонім., Парэчча Гродз., Соргаўцы Астр.
ЗАЛЕ´СКАЎШЧЫНА ж. *Частка лесу.* Пузічы Гродз.
ЗАЛЕ´СКІ ЛЕС. *Лес.* Казакі Шчуч.
ЗАЛЕ´СНАЯ ж. *Поле каля лесу.* Васявічы Дзятл.
ЗАЛЕ´ССЕ н. (ЗАЛЕ´С м.). *Сенажаць.* Кальчуны Ашм.
ЗАЛЕ´ССЕ н. *Поле.* Мілашэвічы, Прырэчча, Васілевічы Слонім., Занкі, Ханявічы Свісл., Якубаўцы, Кемейшы Воран., Петрашоўцы Ваўк.
ЗАЛЕ´СЫ мн. *Поле (за лесам).* Сямейкі Лід.

